E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 6(11) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА КРАСАВІК 2003 ГОДА ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773 http://nchas.iatp.by

## Забытае бедства

Пасля 26 красавіка 1986 года СССР яшчэ тры гады марнаваў сродкі на вайну ў Афганістане. Зразумела, што на ліквідацыю наступстваў катастрофы заставаліся капейкі. Бо Афганістан намагаліся захапіць, а Чарнобыльскую зону, безумоўна, ніхто не адыме. І вось ужо на працягу 17 гадоў гэтую бяду павольна выціскаюць з памяці. Ужо і араць там можна, і жыць не зашкодзіць, і наступствы не такія трагічныя, як малявалі вучоныя людзі. І грошаў няма, каб радыкальна нешта зрабіць. І няма каму выказваць прэтэнзіі. Хіба толькі Госпаду, што такое дазволіў.

Кажуць, што Чарнобыльская бяда сыграла нават пазітыўную ролю ў фармаванні беларускай нацыі. Адчуванне супольнай бяды, якая закранула ўсіх, нібыта спрыяла кансалідацыі беларускага народа, стала своеасаблівай візітоўкай беларусаў: «Мы – народ, які пацярпеў ад Чарнобыльскай катастрофы!» Аднак у апошнія гады пытанне Чарнобыля становіцца для большасці абстрактным, і народ жыве, як быццам бы нічога і не было.

Працяг тэмы на стар. 3

## Кіёскі яшчэ пажывуць

Як вядома, да 1 ліпеня з мінскіх вуліц мусіла знікнуць астатняя рэшта кіёскаў. Аднак спяшаемся парадаваць: іх ліквідацыя адтэрміноўваецца, прынамсі, да канца 2003 года. Няўжо чыноўнікі ўсё-такі ўлічылі настроі людзей, якія былі абураныя зносам кіёскаў, бо давядзецца купляць усялякую драбязу ў гіпермаркетах. Натуральна, што гэта нязручна ды і смешна. Ды і хутчэй за ўсё кошты ў гіпермаркетах будуць значна даражэйшыя, чымсьці ў кіёсках. Але галоўная прычына таго, што кіёскам дазволілі жыць, у тым, што яшчэ няма гэтых самых гіпермаркетаў. А калі яны з'явяцца – невядома. Інвестараў, якія б уклалі грошы ў іх будаўніцтва, нешта не багата.

## З Вялікаднем!



Фота У. Шлапак

### У нумары



## Увазе чытача!

Рэдакцыя *Новага Часу* адкрыла ў Інтэрнеце сайт газеты. Зараз на ім можна паглядзець апошнія нумары, але ў бліжэйшы час будзе загружаны архіў і палепшана сістэма пошуку. Заходзьце на наш сайт! Яго адрас:

**http://nchas.iatp.by**

Перспектыва

# Ці запросіцьБеларусь Рымскага папу?

***Расія рыхтуе сустрэчу пантыфіка з маскоўскім патрыярхам***

Як вядома, папа Іаан Павел ІІ плануе наведаць Манголію ў жніўні гэтага года. Каталікоў там нашмат меней, чым у любым вясковым прыходзе Беларусі. Але з гэтакай зручнай падставы, падобна, ужо вырашана на дзяржаўным узроўні Расіі пытанне аб візіце папы ў Казань. Такую выснову дазваляюць зрабіць заявы расійскага і італьянскага прэм’ераў пасля перамоваў у Рыме. Сільвіо Берлусконі сказаў: «Я задаволены той работай, якую зрабіў і якая дазваляе гаварыць, што гэта можа на самой справе адбыцца». Справа ў тым, што Берлусконі арганізаваў экспертызу Казанскай іконы Божай Маці, якая знаходзіцца ў Ватыкане і якую Іаан Павел ІІ павінен перадаць расійскім праваслаўным у тым выпадку, калі візіт сапраўды адбудзецца. Расійскі прэм`ер заявіў, што «тыя намаганні, якія прадпрымаліся і працягваюць прадпрымацца па зняцці супярэчнасцяў (паміж Ватыканам і Рускай праваслаўнай царквой) павінны завершыцца поспехам».

Цяпер уся праблема ў тым, каб пераканаць кіраўніцтва Расійскай праваслаўнай царквы даць згоду на візіт папы. Сільвіо Берлусконі мае намер асабіста пагутарыць на гэтую тэму з патрыярхам Аляксіем ІІ. «На просьбу Святога Прастола я размаўляў з Уладзімірам Пуціным аб магчымасці маёй сустрэчы ў ходзе аднаго з маіх візітаў у Расію з патрыярхам маскоўскім Аляксіем ІІ», – заявіў ён. Відаць, італьянскі прэм’ер намерваецца зрабіць ачольніку Рускай Царквы прапанову, ад якой той не здолее адмовіцца. Які менавіта аргумент высуне Берлусконі на карысць візіту папы, пакуль застаецца загадкай.

Затое можна ўпэўнена сказаць, якія магчымасці ўціску выкарыстае са свайго боку расійская ўлада, каб пераканаць Аляксія ІІ сустрэцца з Іаанам Паўлам ІІ. Пасля ўступлення ў Расіі ў дзеянне Зямельнага кодэкса прыходы і манастыры РПЦ апынуліся фактычна на мяжы эканамічнага крызісу. Калі ў заканадаўства не будуць своечасова ўнесены адпаведныя папраўкі, бюджэт Маскоўскага патрыярхату можа вельмі пацярпець. Вырашыць гэтую праблему без дапамогі дзяржавы царква не ў стане. Цалкам верагодна, што сустрэча патрыярха з папам будзе выстаўлена ўладамі ў якасці абавязковай умовы вырашэння праблемы царкоўнага землеўладання.

Месцам візіта Іаана Паўла ІІ выбрана Казань, а не Масква, як меркавалася раней. Патрыярху прасцей пагадзіцца на сустрэчу з пантыфікам, калі яна пройдзе далей ад адміністрацыйнага цэнтра РПЦ.

Для беларускай улады магчымы візіт рымскага папы ў Расію стварае добрыя магчымасці запрасіць яго з візітам да беларускіх каталікоў. Калі такое не адбудзецца, гэта будзе азначаць, што праваслаўная царква маскоўскага патрыярхату мае ў нашай краіне большую сілу, чым улада. Калі візіт адбудзецца ўлада за кошт аўтарытэту папы падыме свой рэйтынг.

**Пётр ПАЎЛОВІЧ**

# Мулявінскі фестываль



Як вядома меламанам, фестываль «Рок-каранацыя» сёлета праводзіць не планавалася з тых меркаванняў, што гэтая імпрэза вычарпала сябе. І якое ж было ў іх здзіўленне, калі з’явіліся афішы, што гэты фэст усё-такі адбудзецца 25 красавіка ў канцэртавай зале «Мінск».Зразумела, гэта прыемна. Але чаму раптам пахаваны фестываль рэанімавалі?

Прычына паважная. Адноўленая «Рок-каранацыя» будзе прысвечаная памяці нядаўна памерлага лідэра легендарнага ансамбля, першага беларускага рок-гурта «Песняры» Уладзіміра Мулявіна. На канцэрце выступяць самыя папулярныя ў Беларусі на сённяшні дзень рок-каманды, у тым ліку «рок-каралі» мінулых гадоў – «Крама», N.R.M., «Нейро Дюбель» і «Ляпис Трубецкой». Яны выканаюць песні з рэпертуару «Песняроў». Нешта падобнае ўжо было, калі беларускія рок-гурты праспявалі «песняроўскія» песні ў межах музычнага праекту «Песнярок». Ён атрымаўся настолькі ўдалым, што паклаў пачатак цэламу шэрагу сумесных альбомаў беларускіх рок-музыкаў. Напрыклад, можна згадаць «Народны альбом» і «Я нарадзіўся тут». Наогул цікава, наколькі магчыма выканаць песні «Песняроў», захоўваючы свой стыль і выяўляючы сваё разуменне.

Што тычыцца сёлетняй «Рок-каранацыі», то яна трохі змяніла фармат. Асноўныя намінацыі захаваліся, але лепшых у іх будуць выбіраць па іншых, чымсьці раней, крытэрыях. Дагэтуль панаваў суб’ектыўны падыход. Цяпер прыдуманыя канкрэтныя правілы. Так, у намінацыі «Адкрыццё года» будуць спаборнічаць паміж сабой толькі сапраўды новыя выканаўцы і калектывы, а не ўжо вядомыя. У намінацыі «Песня года» будуць разглядацца толькі тыя кампазіцыі, якія хаця б два тыдні знаходзіліся ў ратацыі на беларускіх FM-станцыях. Не можам не пагуляцца ў прагнозы: нам здаецца, што «рок-карону» гэтым разам заваюе «Тройца» альбо N.R.M. Праўда, адбор песень FM-станцыямі часам дзівіць абсалютнай безгустоўнасцю і сведчыць толькі пра густ музычнага рэдактара ці яго знаёмых.

Між тым памяць Уладзіміра Мулявіна ўшануюць і на дзяржаўным узроўні. Паводле прэс-службы беларускага прэзідэнта, «дзеля прапаганды спадчыны ўсенародна любімага артыста, развіцця закладзеных ім творчых традыцый» будзе створаны Нацыянальны цэнтр музычнага мастацтва «Песняры» імя Мулявіна. Апрача гэтага, у блізкім часе будуць выпушчаныя серыя кампакт-дыскаў, мультымедыйнае выданне ягоных твораў, а таксама фільм і кніга пра ягонае жыццё і творчасць, што будзе цікава для аматараў яго таленту.

Адна з мінскіх вуліц будзе названая імем музыкі. Не выключана, што вуліцай Мулявіна стане цяперашняя вуліца Бяды, на якой жыў спявак. У Беларускай дзяржаўнай філармоніі створаць музей музыкі, а каля яе з’явіцца ягоны помнік.

**Мар’ян КАРЫМОНТ**

# Дзяржстандарт і беларуская мова

***Беларусы не павінны цярпець знявагу***

Навукова-тэхнічнай камісіяй Дзяржстандарту падрыхтаваны новы праект СТБ **«Тавары нехарчовыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні»**. Неўзабаве гэты праект будзе разгледжаны і прыняты. Безумоўна, што такія стандарты неабходныя. Людзі павінны ведаюць, што яны набываюць, хто вытворца, каму выставіць прэтэнзіі.

Грамадскае аб`яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» звярнулася да кіраўніцтва Дзяржстандарту з прапановай замацаваць у дакуменце норму, якая б абавязвала ўсіх вытворцаў пры афармленні ўпаковак, спадарожнай інфармацыі аб прадукце, інструкцыях карыстальнікаў выкарыстоўваць беларускую мову.

**Існуючая норма, калі, стандарт патрабуе наносіць на таварах тэкст «на беларускай і/альбо рускай мове», прывяла да таго, што амаль з усіх тавараў знікла беларуская мова.** Цяпер на таварах айчыннай вытворчасці можна сустрэць надпісы на англьскай, нямецкай, рускай, і нават казахскай мовах. Па сутнасці, мы бачым легалізацыю непавагі да мовы тытульнай нацыі, да мільёнаў людзей, якіх прымушаюць прызвычайвацца да адзінай мовы – мовы суседзяў. Магчыма, некаторыя робяць так па недасведчанасці, але ж негатыўны вынік той самы.

Між тым грамадская думка сведчыць пра тое, што пераважная колькасць жыхароў краіны выступае за тое, каб тавары мясцовай вытворчасці афармляліся з выкарыстаннем беларускай мовы. А іначай пра якую роўнасць дзяржаўных моў можна гаварыць, калі беларус у сваёй дзяржаве не мае магчымасці атрымліваць інфармацыю аб прадукце на сваёй роднай мове. Пра якую павагу да беларусаў можна гаварыць з боку замежных таваравытворцаў, калі мы самі не можам абавязаць свае ж прадпрыемствы паважаць больш за 73,6% грамадзян краіны, якія вызнаюць беларускую мову за родную?

Спадзяемся, што нашу занепакоенасць падзяляюць і ў Дзяржстандарце Беларусі. Але звяртаемся да вас, паважаныя чытачы, падтрымаць намаганні Таварыства беларускай мовы і накіраваць на адрас Дзяржстандарту ліст з патрабаваннем замацаваць абавязковае выкарыстанне беларускай мовы пры афармленні тавараў.

**Вялікая просьба накіроўваць лісты на імя старшыні Камітэта па стандартызацы, метралогіі і сертыфікацы пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь (Дзяржстандарту) спадара Карашкова Валерыя Мікалаевіча (адрас: 220053, г. Мінск, Старавіленскі ракт, 93).** Упэўнены, што вашыя звароты стануцца важкім аргументам падчас абмеркавання праекта СТБ «Тавары нехарчовыя. Інфармацыя для спажыўца. Агульныя патрабаванні».

**Сяргей КРУЧКОЎ,**
**намеснік старшыні ТБМ**

# Боль нашай зямлі

***На тэрыторыю нашай краіны асела больш за 70% радыеактыўных выкідаў, трацiна тэрыторыі Беларусі забруджаная радыёнуклідамі, смяротнасць ад ракавых пухлінаў за апошнія 10 год вырасла на 23,5%. За лічбамі стаяць паламаныя лёсы тысячаў чалавек, якія спаткалі на сваім жыццёвым шляху Чарнобыль.***

***Тым часам, як кіраўніцтва дзяржавы ігнаруе сумны юбілей. На Захадзе расце цікавасць да чарнобыльскіх праблемаў, і разам з ёй прыходзіць разуменне таго, што абараняючыся ад Чарнобылю чалавецтва абараняе і ратуе сябе, сваю будучыню. Але, на жаль, для Беларусі катастрофа працягваецца....***




**Васіль Якавенка, літаратар, прэзідэнт ГА «Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль»**

Нядаўна адзін мой прыяцель вярнуўся з санаторыя «Радон», што ў Дзятлаўскім раёне на Гродзеншчыне. Туды ён штогод ездзіць. Расказваў, што яго ўразіла на гэты раз. Багата жанчын з захворваннямі суставаў ног, і сярод іх пераважалі маладыя. Бадай усе – з Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Вельмі сумна, казаў, рабілася ад усведамлення той немачы. А мне гэта з'ява добра вядомая. Хварэе народ – як ніколі, і ўзбуджальнікам плоймы захворванняў выступае дробным-дробная, патаемная, непадуладная нават уяўленню чарнобыльская саранча – радыенуклеіды. Адсюль і справядліва сцвярджаць, што хварэе люд ад наступстваў Чарнобыля. Ды іншага і чакаць не варта было. Сітуацыя не палепшылася ад таго, што чыста валявым рашэннем сотні забруджаных вёсак перавялі ў чыстыя. Вастрыня праблем нібыта знята, прыглушана. Толькі на справе ў цела і душу народа загнаныя пакуты ад невытлумачальных хваробаў і дачаснай смерці. І не выпадкова абвал чарнобыльскай навукі... калі яна была.

**Марыя Шымук, настаўніца пачатковых класаў**

Бадай не знойдзеш больш гаманлівага месца, як у школе... Сёлета ў мяне падрыхтоўчы клас, а гэта дзеці ва ўзросце 6–7 гадоў. Кожны дзень я ўваходжу ў клас, дзе чакаюць мяне 25 пар дапытлівых дзіцячых вачэй. Раніца радуе шчырымі ўсмешкамі з хітрынкамі і непасрэднай добразычлівасцю. Ці добра ім тут, ці сытна, ці ў добрым настроі сустракае іх настаўніца?

Настрой спачатку цудоўны ва ўсіх. На першым уроку, які пачынаецца ў 9 гадзін, працаздольнасць дзяцей неблагая. Два ці тры хлопчыкі яшчэ да сняданку пачынаюць хрумсцець ляндрынкамі і сушкамі. Сёння рэдка можна ўлавіць у паветры пах мандарына ці яблыка. На сняданак «частуюць» кашай, кубкам амаль празрыстай гарбаты і лустачкай батона. Абед будзе ажно ў 13 гадзін. На другім уроку Аня і Волечка ціхенька ідуць у туалет – пайшла кроў носам. Іх сшыткі амаль на кожнай старонцы з невялікімі крывавымі плямамі. У Андрэя, Марыны, Лізы і Хрысцінкі штодзённа баліць галава. Медыкі пакуль не могуць устанавіць прычыну. Дзесяць дзяцей маюць блізарукасць і носяць акуляры, а ў дзевяці ўжо развіўся скаліёз. Ёсць у класе дзеткі з астмай і іншымі сур'ёзнымі захворваннямі. Адным словам, толькі адно дзіця мае першую групу здароўя, а 13 – з трэцяй групай, астатнія – з другой! Памятаю часы, яшчэ да Чарнобыля, калі ў класе стан 1–2 дзяцей адносілі да II ці III групы здароўя. Іх імкнуліся асабліва не перагружаць. Клапаціліся і ўрачы школьнай медыцынскай дапамогі, выпісваючы вітаміны, гематаген, сродкі ад танзілітаў і гаймарытаў. Сёння ратаваць трэба ўсіх. Як жа будуць яны працаваць, ствараць сем'і, быць грамадзянамі? Якімі будуць іх дзеці? Ад хворых – хворыя і нараджаюцца. Зараз у сем'ях толькі па адным дзіцяці, а ці народзіць гэтае кволае пакаленне хаця б яшчэ па адным нашчадку? Як далей будзе доўжыцца беларускі род? Чарнобыль – боль зямлі нашай, які не сціхне і праз стагоддзі...

**Павал Севярынец, палітык**

За 17 гадоў, якія прайшлі пасля Чарнобыльскай катастрофы вырасла цэлае пакаленне, тое пакаленне, на якое мы ўсе спадзяемся. Мы выраслі з усведамленнем Чарнобыля як часткі свайго жыцця, прычым абсалютна неад'емнай. З Чарнобылем можна змірыцца, можна жыць, кахаць, будаваць сям'ю, працаваць, бачыць перспектывы. Чарнобыль увайшоў у нашае жыццё, але не заўважаць яго толькі таму, што радыяцыя нябачная, немагчыма. Я летась быў на Магілёўшчыне, праехаў дзесяткі кіламетраў і не бачыў там людзей. Гэта спустошаныя вёскі, страшныя людскія твары, звяр'ё, на якое не палююць, бо радыяцыя, такія ж грыбы, дрэвы, лясы, балоты... Усё навокал.

Можа быць, не так шмат людзей бачыць сэнс у «Чарнобыльскім шляху», але трэба змагацца дзеля памяці і дзеля будучыні. Спадзяюся, надыдзе час, калі Чарнобыльскі шлях будзе не зборам апазіцыі, а ўсенародным рушаннем.

**Валеры Мазынскі, рэжысёр**

Я, відаць, такі самы, як і ўсе людзі тут на Беларусі. Мы да ўсяго прывыкаем вельмі хутка, і цана нашага жыцця, ну так мы выхаваныя, што яно нічога не каштуе. Жыццё каштуе, відаць, толькі тады, калі памрэ чалавек, але ён уходзіць і сам не ведае колькі каштуе яго жыццё. З маёй сям'і не так многа памірала, але навокал так многа памірае людзей, ненатуральна, не ў свой час, як нам здаецца.

Калі казаць пра хваробы ад Чарнобыля, то я так прама не сутыкаўся, акрамя агульнай інфармацыі. Я не ездзіў у Чарнобыльскую зону, але ведаю людзей, якія там былі, навукоўцаў, якім трэба дакрануцца. Яна ж, гэтая радыяцыя, не дае аб сабе знаць, а хворыя людзі ёсць, і мы бачым, што гэта жахліва. Адны крычаць, што гэта не ад Чарнобыля, іншыя кажуць, што ад Чарнобыля. Ведаеце, гэта настолькі яшчэ не даследавана, што вельмі складана вызначыць, што тут на самой справе. Я веру Нікітчанку, гляжу ў яго вочы, у яго твар і праз чалавека веру, і мне становіцца жудасна...

Псіхалагічна, канешне, вакол гэтай бяды ненармальная сітуацыя. Таму, што здарылася ўсё ў беднай краіне, дзе ў бядзе чалавеку можна толькі на словах паспачуваць, а памагчы няма чым. Радыё ўключаю – дык у нас ужо кожны дзень барабаняць, што амаль кожнае дзіця летам некуды выязджае і як быццам бы гэта панацэя, і не разумеюць, што дзіця праз месяц вяртаецца дадому, у зону, дзе яно не атрымлівае і частку таго, што было на адпачынку. Дык я часам думаю, ці добра гэта псіхалагічна, што дзецям так паказваюць добрую цацку, а пасля адбіраюць – вярнулі назад і ёсць ён толькі тое, што там могуць даць.

У Маскве, бачыце, пасля Норд-Осту людзі ўжо пачалі патрабаваць нейкія грошы за свае выдаткі. А ў нас лічыцца гэта амаральным – ну як гэта за смерць, за здароўе я буду патрабаваць грошы?

А што людзі? Людзі спакойна да гэтага ставяцца, паціху выміраюць і не пратэстуюць ніяк. Ну, які сэнс? Дзяржава ў нас так існуе паралельна з намі, мы ёй не давяраем, ад яе нічога не чакаем. Калі заенчыш, закрычыш, яна ўсё роўна не дапаможа. Так што кожны паасобку пражывае свой лёс.

**Валеры Дзядзічкін, доктар медыцынскіх навук, прафесар, старшыня грамадскай арганізацыі «Аб'яднанне інвалідаў «Чарнобыльскае ліхалецце»**

Я ўдзельнічаў у ліквідацыі і першы час жыў у зоне адсялення. Тыя, хто там былі, канешне, атрымалі дастатковую дозу і ў іх зараз прагрэсуюць адмоўныя наступствы. У прыватнасці, у маёй арганізацыі за мінулы год памерла дзесяць працэнтаў сябраў. Гэта, на маю думку, вынік таго, што адбылося. Той, хто працаваў менавіта ў зоне адсялення, усе маюць кепскае здароўе. І гэта не звязана з нейкімі эканамічнымі фактарамі, таму што, напрыклад, я сам эканамічна сябе заўсёды адчуваў няблага, але здароўя няма.

Я быў там у маі-чэрвені 1986 года, праводзіў дэзактывацыйныя работы ў той частцы, дзе ўжо людзі былі адселены. Быў бачны будынак станцыі з таго месца, дзе мы жылі і працавалі. Таму ўся карціна ўздзеяння радыяцыі на здароўе адбываецца ў тым ліку і са мной. Для здароўя тых, хто атрымаў дозу апраменьвання менавіта ў першыя месяцы аварыі, зараз, на маю думку, наступае «развязка», вынік праяваў уздзеяння радыяцыі. Да нейкага часу быў скрыты перыяд, а пасля ўсё пачынае праяўляцца ў той частцы арганізму, якая была найбольш слабая – у каго гэта сардэчна-сасудзістая сістэма, у каго эндакрынная, у каго нервовая. Уздзеянне радыяцыі магчымае на розныя кропкі.

Хто там не быў, кажуць, што гэта псіхоз, што ўздзеянне радыяцыі перабольшанае. А хто быў, той на сабе зведаў яго сілу.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



Вось на гэтым полі ў Курапатах, побач лясного масіва, дзе забівалі і закопвалі дзесяткі тысяч невінаватых людзей у 1937 – 1941 гадах, дзелавыя людзі і чынавенства вырашылі пабудаваць «Солнечный» – пасёлак элітных катэджаў

# «Солнечная» пляма

## *Мемарыялізацыя месца пакутаў адсоўваецца адзінкамі ўмоўнага сумлення*

«Індывідуальнае жытло нямецкай якасці для мінчан», – так у газеце «Вабанк», бясплатным дадатку да «Камсамольскай праўды», накладам у 210 тысяч асобнікаў, рэкламуюць катэджы, якія плануюць збудаваць побач сусветна вядомага ўрочышча Курапаты. Вядомага тым, што тут у 1937–1941 гадах савецкія карнікі расстрэльвалі і хавалі ў ямах дзесяткі тысяч грамадзян.

**«Новы Час» у № 2 за 30 студзеня гэтага года апублікаваў матэрыял «Пасёлак Солнечный», ці школа цынізму», прысвечаны рашэнню Мінскага райвыканкама адвесці пляц, які прымыкае да мемарыяльнага ўрочышча Курапаты, пад забудову катэджамі палепшанай планіроўкі. Прасцей кажучы, пад элітарны жыллёвы пасёлак з дамамі, кошт якіх недаступны простым людзям. Назву гэтага новага паселішча па суседству з былой мясцінай масавага знішчэння людзей савецкімі карнікамі прыдумала чыясьці надта злосная і здзеклівая галава – «Солнечный». Зразумела, калі б гэты «Солнечный» забудоўваўся і хацінамі для бедных, усё роўна гэта было б праявай жорсткага цынізму, але арыентацыя на новых багацеяў памнажае чыноўны цынізм у адносінах да таго месца, куды чыноўная рука можа прыносіць толькі кветкі. І больш ніякіх правоў у яе няма. Зараз чынавенства дэманструе грамадству, што «калі яно што рашыла, дык выпʼе абавязкова». Наогул, у сваім намеры «закатаць» урочышча пад асфальт, прынізіць яго статус, пакпіць з гэтага месца пакутаў дзесяткаў тысяч людзей улады цвёрдыя і паступовыя. Калі гэта не зусім атрымалася пры будаўніцтве Мінскай кальцавой дарогі, то зараз на месцы былога шляху, якім вялі і везлі на расстрэл невінаватых людзей, паўстане «Солнечный».**

**Справа ўскладняецца тым, што элітная будоўля заўжды пахне вялікімі грашыма, а гэты пах, як вядома, здольны ўсыпляць не надта сумленныя сэрцы...**

Учытайцеся ў рэкламны тэкст:

«Катэджны пасёлак «Сонечны», з'яўляецца першай і пакуль адзінай магчымасцю ўвасобіць вашую мару ў рэчаіснасць! Пасёлак размешчаны каля лясного масіву ў адным з самых экалагічна чыстых, прыгожых і ўтульных мікрараёнаў Мінска».

Ні паўслова, што «ўвасабленне мары» пра жытло «нямецкай якасці» адбудзецца амаль роўна на тым месцы, дзе пазбавілі і мары, і жыцця стрэлам у галаву не меней за 100.000 чалавек.

Аднак, ужо зараз жадаючых набыць участак каля былога месца чалавечых пакутаў больш, чым запланавана месцаў пад «індывідуальнае жытло». Хоць кошт гэтага жытла, мякка кажучы, зусім не танны. Адна сотка зямлі будзе каштаваць у «Солнечным» 1,5 тыс. даляраў, 1кв. метр агульнай плошчы пабудовы – 500 у. адзінак і 150 у. а. за 1 кв. м падвальных памяшканняў і гаража. Нагадаем, што на чалавека ў пасёлку «Солнечный» разлічана плошчы 45,5 кв. метры. «Тэрміны і якасць будаўніцтва вас прыемна здзівяць», – абяцаюць будаўнікі. Толькі ці кажуць яны сваім кліентам і ці ведаюць самі, што «лясны массіў», паблізу якога размесціцца пасёлак – гэта брацкія магілы, дзе сталінскія карнікі гвалтоўна пазбавілі дараванага Богам жыцця тысячы людзей. Так што тут ужо болей за 60 гадоў вельмі своеасаблівая аура і атмасфера. На чый жа густ – гэта «адзін з самых экалагічна чыстых, прыгожых і утульных мікрараёнаў Мінска»?

На дадзены момант ужо высветлілася дакладна, хто вядзе будаўніцтва. Гэта сумесны праект нямецкай фірмы «Хорнбахер і Болль» і беларускай кампаніі «Сакуб». Як кажуць беларускія партнёры, «Хорнбахер і Болль» даволі паспяхова на працягу некалькіх год працуе ў Калінінградзе. Аднак пры журналісцкім даследаванні высветлілася, што замежны партнёр, на якога спасылаюцца беларускія будаўнікі, у Нямеччыне не зарэгістраваны, а ў дэпартаменце па сувязях нямецкай амбасады ў Беларусі і беларускага прадстаўніцтва ў Нямеччыне пра фірму «Хорнбахер і Болль» нічога не ведаюць. Так што відавочна нейкая авантура. Патлумачыць гэтую супярэчнасць будаўнікі адмаўляюцца, спасылаючыся на «камерцыйную тайну».



Простыя людзі ўшаноўваюць памяць ахвяраў Курапатаў крыжамі, чынавенства і дзялкі лічаць гораснае месца зручным для адпачынку

Паўстае таксама і шэраг іншых пытанняў. Напрыклад, ці ведаюць будаўнікі і замоўцы катэджаў, што знаходзіцца паблізу? Пакуль у абвестках і рэкламе пасёлка «Солнечный» пра блізкасць Курапатаў не гаворыцца нічога. Застаецца толькі здагадвацца, свядома ці не замоўчваецца гэтая акалічнасць.

Увесь парадокс сітуацыі заключаецца ў тым, што хоць помнік прызнаны дзяржавай, але афіцыйнай мяжы ўрочышча Курапаты дагэтуль няма. Адпаведна няма і ахоўнай тэрыторыі, а гэта дазваляе планаваць будаўніцтва ў непасрэднай блізкасці да магілаў.

Магчыма, калі б такая мяжа з'явілася, з'явілася б і аснова для кампрамісу.

«Таму асноўным на дадзеным этапе для ўратавання мемарыяла неабходна зацверджанне ахоўнай зоны, якое да гэтуль яшчэ не адбылося», – лічыць Мая Кляшторная.

– Кожны помнік павінен мець сваю ахоўную зону, якая стварае поўнае ўяўленне гэтага помніка, і служыць для аховы тэрыторыі, каб сам помнік не затаптваўся і не разбураўся. Гэта месца, дзе маглі б сабрацца людзі. Некалі, калі першы раз у Курапаты прыйшлі людзі і неслі крыж на месцы пахаванняў, яны сабраліся менавіта на гэтым полі перад лесам. Тут усе людзі спыніліся, а не на той пляцовачцы каля Крыжа пакут. Ахоўная зона – гэта неабходная частка кожнага помніку.

У некаторых выпадках бывае, што такая зона адсутнічае, як напрыклад Кальварыйскія могілкі ў Мінску. Але гэта абумоўлена тым, як гістарычна складаўся помнік.

Курапаты – гэта не звычайнае месца. Агляд яго, на маю думку, павінен быць з розных бакоў – з Кальцавой дарогі і з гарадскога паселішча. Поле ў непасрэднай блізасці ад лесу якраз і з'явілася спрэчнай тэрыторыяй. Ці яно будзе «полем журбы», ці будзе забудаванае катэджамі, ушчыльную да лесу. Зараз праект знаходзіцца на ўзгадненні, як гэты працэс будзе ісці я не ведаю. Горка сказаць, гарадская архітэктура выдзяліла нам 100 метраў гэтай зоны.

**– Мая Тодараўна, які быў бы аптымальны шлях вырашэння гэтай праблемы на Ваш погляд?**

– Мая канцэпцыя гэтага мемарыяла прадугледжвае, што лес і магілы суцэльна павінны застацца як помнік, а ўся мемарыялізацыя павінна выйсці на поле: тут будзе і месца для агляду, і прастора для ўспамінаў, дзе ў далейшым могуць узнікнуць аб'екты, якія непасрэдна будуць звязаныя з гісторыяй Курапатаў – музей, магчыма нейкі храм, хоць канфесійна нельга прывязваць гэтую пабудову. Але ў нас дагэтуль няма ні музея, ні бібліятэкі, вось гэта якраз месца для гэтага.

**– Ці існуюць законныя сродкі спынення пабудовы катэджаў ва ўрочышчы?**

– Сродак адзіны і просты – прынясць гэтую зону як ахоўную. У гэтым выпадку будаўніцтва катэджаў увогуле не будзе магчымым. Я лічу, што ў гэтым месцы размяшчаць катэджы ўвогуле неразумна – паміж прамысловай пляцоўкай, магіламі і дзвюма дарогамі. Прычым гэта дарогі бесперапыннага хуткаснага руху. Тым больш, па гэтым полі, дзе збіраюцца будаваць дамы, праходзіла дарога на расстрэл. Гэты шлях прасочваецца ад турмы і да саміх пахаванняў. Таму гэтае поле і павінна быць полем мемарыяла.

Могуць палічыць, што гэта вельмі шмат месца. Але калі прыйсці ў Курапаты з будаўнічымі аб'ектамі, я лічу, што гэта злачынна, і ўсё роўна прыйдзе час, калі нам прыйдзецца ўсё руйнаваць і ачысціць гэтую пляцоўку пад мемарыял. Такая мая думка.

**– Але калі механізм запушчаны, ці рэальна спыніць будаўніцтва?**

– Механізм яшчэ зусім не запушчаны. Тое, што адбываецца зараз – гэта такое нахабнае ўварванне, каб потым сказаць, што будаўніцтва ўжо пачалося. А тое, што тычкі ўбілі, ну і што, гэта ўсё яшчэ можна адмяніць. Калі тыя ўлады, ад якіх гэта залежыць, паглядзяць на праблему інакш, то усё можна змяніць. Вырашаюць тут усё Савет міністраў і прэзідэнт, а таксама Міністэрства культуры, Камітэт па горадабудаўніцтве і землеўпарадкаванні пры Мінгавыканкаме і пры аблвыканкаме – гэтыя ўстановы адводзяць землі і могуць гэтыя рашэнні адмяніць.

**– Якія настроі зараз пануюць у гэтых установах ?**

– У Камітэце па ахове спадчыны і рэстаўрацыі зараз пануюць настроі чакання. Яны чакаюць узгаднення ад гарархітэктуры і аблархітэктуры, а пасля будуць самі вырашаць. Я думаю, што сумлення ў гэтых людзей дастаткова, і калі па сумленні будзе вырашана, то рашэнне будзе на карысць Курапатаў.

**Тым не менш праца ідзе. 28 лютага прынята рашэнне аб інвеставанні ў будаўніцтва катэджнага пасёлка**



Праз гэта поле праходзіла раней дарога смерці, па якой нкусаўскія карнікі везлі і гналі невінаватых на расстрэл. Тут выплакана ахвярамі возера слёз

# на Курапатах

«Солнечный» у раёне вул. Мірашнічэнка, а ўжо 15 сакавіка распачатая падрыхтоўка да будаўніцтва. У траўні плануюць распачаць поўнамаштабныя работы, каб здаць катэджы «пад ключ» ужо напрыканцы гэтага года. Землямераў у раёне Курапатаў заўважылі актывісты Маладога Фронту і Беларускай Партыі Свабоды, якія рэгулярна наведваюць урочышча. Гэтыя арганізацыі прынялі заяву, у якой асуджаецца будаўніцтва. Зараз Малады Фронт і БПС плануюць аднавіць вахту ва ўрочышчы, як гэта было пры пабудове МКАД.

Аднак відавочна, што вахта ўжо не дапаможа, неабходныя іншыя сродкі. Якія – гэта і было абмеркавана на паседжанні грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла Курапаты». Удзельнікі прыйшлі да высновы, што ліставанне з чыноўнікамі малаэфектыўнае і неабходны іншыя больш радыкальныя меры. Як зазначылі ўдзельнікі, зараз перад намі паўстала абсалютна новае кола праблемаў: раней пагроза была з боку кальцавой дарогі, зараз – забудова.

На гэтым этапе працэс пабудовы пакуль застаецца безаблічным, і знайсці адказнага цяжка ці амаль немагчыма. Магчыма, гэта будзе больш проста, калі адбудзецца паседжанне «круглага стала» «Курапаты: праблемы аховы помніка». На думку яго арганізатараў «Круглы стол» павінен стаць часткай грамадскага ціску на ўлады і будаўнікоў. Запланавана запрасіць прадстаўнікоў будаўнічай арганізацыі, Дэпартамента па ахове помнікаў, нямецкага амбасадара. Распрацоўшчыкаў забудовы, замоўцаў катэджаў і выканаўцаў праекту, дэпутатаў гарсавета і Палаты прадстаўнікоў, палітычных партый і журналістаў. «На гэтым паседжанні можна будзе знайсці паразуменне з чыноўнікамі і прадстаўнікамі праектных фірм і арганізацый», – спадзяюцца арганізатары.

У бліжэйшыя дні ініцыятыва плануе прыняць заяву, а адна з актывістак ініцыятывы Ірына Жыхар не выключае, што ў выпадку, калі будаўніцтва катэджнага пасёлка ля Курапатаў распачнецца самым блізкім часам, актывісты ініцыятывы наладзяць несанкцыянаванае пікетаванне каля офісаў будаўнічых фірмаў.

У любым выпадку пакуль прасыхае зямля, і гэта тармозіць разгортванне будаўніцтва, але ці не высушыць сонейка і крохкую надзею на ў ратаванне Курапатаў ад чарговага здзеку, упакаванага ў праект з назвай «Солнечный» па цане 90 тысяч даляраў за дом у 180 кв. метраў плюс 15 тысяч даляраў за пляцоўку ў 10 сотак?

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**
**Фота Ул. ШЛАПАКА**



Курапаты зведалі ўжо не адно нашэсце таямнічых вандалаў, якія ламалі крыжы, абрушвалі памятныя знакі (як засведчана на гэтым здымку), разрывалі магілы. Што тут будзе са з'яўленнем 1000-га элітнага насельніцтва няцяжка ўявіць



Вось так паціху і пакрысе бетон наступае на месца смутку

## Думкі пра антыкурапацкі рухавік

Галоўная праблема з пачаткам будаўніцтва пасёлка «Солнечный», як і з замарожанай мемарыялізацыяй Курапатаў, палягае зусім не ў тэхнічным пытанні – вызначэнні метражу ахоўнай зоны. У дадзеным выпадку «нявызначаны метраж ахоўнай зоны – 60 метраў, ці 100, ці 300» – не болей чым чыноўныя хітрыкі. За 13 гадоў пасля прыняцця пастановы Савета Міністраў аб мемарыялізацыі Курапатаў адпаведныя дзяржаўныя службы маглі вырашыць гэтакае простае пытанне сто разоў. За гэты час у Мінску з'явіліся новыя станцыі метрапалітэна, надта дарагі і недарэчны новы чыгуначны вакзал, адчыніў дзверы Палац Рэспублікі, у які ўкладзены грошы, дастатковыя, каб мемарыялізаваць усе месцы масавых забойстваў на Беларусі, а не толькі Курапаты. Можна прыводзіць яшчэ сотні прыкладаў таго, што мы не настолькі бедная краіна, каб не сабраць сродкі на ўшанаванне месца народнага смутку. Ахоўную зону вакол Курапатаў не вызначалі, бо не хацелі вызначаць, можа спадзяваліся на вяртанне савецкай улады, можа нехта надта ўплывовы не дазваляў з уласных амбіцыяў, ці забараняў КДБ, ці спрацавалі ўсе гэтыя падставы разам.

Таму праблема «жыллёвага» наступу на Курапаты – гэта найперш праблема сумлення. Як асабістага сумлення – некаторых высокіх і сярэдніх службоўцаў, дырэктараў будаўнічых арганізацый, архітэктараў, што пагаджаюцца выконваць непаважныя заказы, гэтак і грамадства ўвогуле – як супольнасці чуллівых ці не чуллівых, шчырых ці няшчырых, неабыякавых ці абыякавых людзей. Але грамадства дзеля таго і стварае выбарныя органы ўлады, надзяляе іх паўнамоцтвамі ад свайго імя, каб тыя сцвярджалі ў жыццё шчырасць, неабыякавасць, чуллівасць, маральнасць, а не наадварот.

Безумоўна, узвядзенне пасёлка (у прынцыпе, не мае значэння – элітнага ці для бамжоў) побач такой святой мясціны як Курапаты будзе азначаць, што ў грамадстве вяршэнствуюць людзі з умоўным сумленнем, з такім сумленнем, якое саступае «ўмоўным адзінкам». Пры гэтым варта падкрэсліць, што будаўніцтва пасёлка не выратоўвае будаўнічую галіну краіны, а карысная толькі якой адной фірме, якая здолела праз нейкія механізмы прабіць праект, заказ і згоду безадказнага чынавенства.

Кожны адукаваны чалавек разумее, што мемарыялізацыя Курапатаў – гэта не толькі ўсталяванне агароджы і ўзвядзенне гранітнага ці бронзавага помніка невінаватым ахвярам сталіншчыны. Гэта і Музей ахвяраў таталітарызму, і, магчыма, пэўны пляц з капсуламі зямлі, прывезенай з тых далёкіх паўночных і сібірскіх мясцін, дзе пакутавалі грамадзяне Беларусі ў ссылках і лагерах. Гэта – наша другая Хатынь. Нас заўжды адвучвалі ўспрымаць як нацыянальную трагедыю, што мы не ведаем, дзе магілы многіх славутых сыноў Беларусі – шчыра, шмат і ... нашых заслужаных, але цынічна расстраляных сталінскімі карнікамі людзей краіны. Ну хто ведае, дзе магіла Ластоўскага, дзе магіла Гарэцкага? Дзе магілы тысячаў простых ахвяраў таталітарызму? Дык чаму дзяржава, якая не можа адказаць на такое пытанне, не робіць нічога, каб ушанаваць іх памяць на неаспрэчным месцы пакараннях смерцю, на месцы брацкіх магілаў, з ласкі Божай, не да канца зруйнаваных. Аднак некаму надта хочацца насуперак гэтай Божай волі атачыць Курапаты катэджамі, ператварыць горасны лес у зону вясёлага адпачынку і аддаць забыццю памяць пра ахвяры.

Даволі цяжка паверыць, што германскі бок у асобе сваёй нейкай фірмы, сваіх рабочых (бо толькі яны могуць даць «нямецкую якасць работ») прыме ўдзел у рэалізацыі «сонечнай плямы». Немцы намагаюцца аднавіць магілкі сваіх салдат, што загінулі на Беларусі ў часе Другой сусветнай вайны. Наўрад ці яны інвестуюць свае ўмоўныя адзінкі ў праект, які мае на мэце накрыць плямай бяспамяцтва і непавагі сусветна вядомае ўрочышча Курапаты. Наўрад ці немцы захочуць ганьбавацца.

Ну, а нашых бізнесоўцаў слыніць ад такой справы могуць толькі дзве сілы – улада ці народ. Улада – не хоча, арганізаванага народу – няма. У такой сітуацыі нішто не перашкодзіць трыумфальнаму шэсцю «сонечных» катэджаў на Курапаты.

# Збяднець на 15 адсоткаў

***Пераход Беларусі на расійскі рубель створыць эфект шокавай тэрапіі***

Магчымыя негатыўныя для Беларусі наступствы ўвядзення расійскага рубля ў якасці адзінай валюты абумоўлены ацэнкай нацыянальнага ўзроўню цэнаў (суадносіны парытэту пакупніцкай магчымасці і наміналнага абменнага курсу) у Беларусі і Расіі. У дадзены час нацыянальны ўзровень цэнаў у Беларусі складае каля 85% адносна ўзроўня цэнаў у Расіі, гэта значыць расійскі рубель пераацэнены на ўнутраным рынку Беларусі на 15% адносна яго пакупніцкай магчымасці.

Захаванне розніцы параметраў кошту ва ўмовах адзінай валюты справакуе масавы ператок тавараў і рабочай сілы з адной краіны ў другую, што прывядзе да эканамічных стратаў для Беларусі. Пераход на расійскі рубель з выкарыстаннем рынкавага абменнага курсу, мяркуюць эксперты, адразу не паўплывае на адносны ўзровень цэнаў. Аднак гэта выкліча яго выраўніванне ў кароткатэрміновай перспектыве, вынікам чаго стануць непазбежныя страты ў пакупніцкай магчымасці актываў беларускіх эканамічных агентаў: наяўнасці грашовых сродкаў і дэпазітаў ураду, насельніцтва, суб'ектаў гаспадарання ў нацыянальнай валюце ў банкаўскай сістэме.

Апроч таго, пераход на расійскі рубель з выкарыстаннем парытэту пакупніцкай магчымасці ў якасці курса абмену адначасна ліквідуе розніцу ў нацыянальных узроўнях спажывецкіх цэнаў і дазволіць атрымаць у рамках працэдуры замены беларускіх рублёў на расійскія на 15% болей грашовых сродкаў па ўсіх відах даходаў (зарплата, пенсіі) і ашчаджэнняў у беларускіх рублях.

Аднак гэта негатыўна адаб'ецца на цэнавай канкурэнтаздольнасці тавараў беларускіх прадпрыемстваў-экспарцёраў і прывядзе да ўзнікнення вострага крызісу збыту беларускай прадукцыі на рынках Расіі. Таксама апроч актываў (наяўныя грошы, дэпазіты, абаротныя сродкі) у гэтакай жа прапорцыі павялічацца ў рэальным выяўленні пасівы (крэдытарская запазычанасць, дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту, унутраны дзяржаўны доўг, даўгі па раней атрыманых крэдытах).

Пасля аб'яднання валют беларуская эканоміка будзе вымушана працаваць у рэжыме жорсткай грашова-крэдытнай палітыкі і нізкай інфляцыі (прырост індэкса спажывецкіх цэнаў не павінны перавышаць 10% на год). Вынікам гэтага стане спыненне фінансавання дзяржаўных праграмаў і крэдытнай падтрымкі прадпрыемстваў рэальнага сектару за кошт эмісійнай крыніцы. У найбольш вострых формах наступствы скарачэння крэдытнай падтрымкі адчуюцца ў сферы жыллёвага будаўніцтва, на фінансаванне якога накіроўвацца большая частка крэдытнай эмісіі Нацбанка, і сельскай гаспадаркі.

Ва ўмовах жорсткіх бюджэтных абмежаванняў эксперты прагназуюць далейшае падзенне канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў. Для павышэння канкурэнтназдольнасці суб'екты гаспадарання будуць вымушаныя тэрмінова здзяйсняць вельмі балючыя меры па рэструктурызацыі і паляпшэнні фінансавага стану. Адпаведным і прамым вынікам гэтых працэсаў стане зніжэнне рэнтабельнасці і тэмпаў эканамічнага росту, значны рост беспрацоўя.

Стварэнне валютнага саюза, магчыма, будзе стымуляваць паскарэнне рынкавых рэформаў у беларускай эканоміцы, якія ўсё ж будуць мець «шокавы» характар, гэта значыць абваляцца ў выглядзе галечы на простага чалавека.

**Экапрэс**

# Кампенсацыя за рэпрэсіі

***Ці атрымаюць рэпрэсіраваныя жыхары Эстоніі кампенсацыю ад Расіі?***



Паколькі ў Беларусі было і жыве сёння грамадзянаў, якія зведалі камуністычныя рэпрэсіі, непараўнальна болей, чым у Эстоніі, то развязанне дадзенай эстонска-расійскай праблемы, магчымыя ці немагчымыя грашовыя выплаты за страчаныя гады, здароўе, маёмасць, а тым болей за жыццё, мае вялікую цікавасць.

Расійскае МЗС не адказала прамой адмовай на ноту знешнепалітычнага ведамства Эстоніі адносна магчымасці кампенсавання былым рэпрасіраваным – жыхарам Эстоніі, а паабяцала разабрацца з праблемай.

Перадгісторыя тут такая. 17 студзеня МЗС Эстоніі накiравала ў МЗС РФ ноту, якая утрымлівала просьбу растлумачыць пазіцыю аб кампенсацыях жыхарам Эстоніі, якія пацярпелі ад рэпрэсіяў у гады савецкай улады. Адначасна ў Расію былі накіраваны і пададзеныя насельніцтвам хадайніцтвы аб кампенсацыі. Накіраваны ў Расію запыт датычыць тлумачэнняў аб магчымасці прымянення расійскага закона аб рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсій у адносінах таксама і да жыхароў Эстоніі.

Чырвоны Крыж Эстоніі паведаміў яшчэ ў снежні мінулага года ўраду рэспублікі аб прыёме заяваў ад рэпрэсіраваных камуністычным рэжымам. 17 снежня ўрад Эстоніі разгледзеў гэты дакумент і ўхваліў ініцыятыву Чырвонага Крыжа як непалітычнай арганізацыі.

Урад Расіі напрыканцы мінулага года паведаміў, што пачынае выплачваць кампенсацыі ахвярам палітычных рэпрэсіяў у Расіі. Але тады Расія не патлумачыла, ці распаўсюджваецца рашэнне аб выплаце кампенсацыяў на рэпрэсіраваных жыхароў былога Савецкага Саюза.

Для мноства людзей, лёсы якіх паламала таталітарная савецкая ўлада, нават атрыманне пэўнай сумы грошай сталася б палёгкай у іх незабяспечанай старасці.

**Віктар КАТОВІЧ**

# Іракскі пасол і 500 тысяч даляраў

***Расійская «Независимая газета» надрукавала матэрыял аб іракскім паслу ў Беларусі, яго становішчы, пасольскіх грошах і стаўленні да гэтага беларускіх афіцыйных уладаў.***

Пасол Ірака ў Беларусі Сальман Зейдан зняў усе грошы з дыпламатычнага рахунка і збіраецца выехаць з імі ў адну з афрыканскіх краінаў. Па звестках з крыніцаў, блізкіх да іракскага пасольства, пасол атрымаў згоду беларускага кіраўніцтва не перашкаджаць яму ў здзяйсненні ўцёкаў.

Пасля перамогі амерыкана-брытанскай кааліцыі Сальман Зейдан апынуўся ў адчайным становішчы. Ён мае права заставацца ў Мінску, захоўваючы пры гэтым дыпламатычны статус, але, як толькі сфармуецца пасляваенны ўрад Ірака і ў Беларусь будзе прызначаны новы пасол, яго лёс, мякка кажучы, стане непрадказальны. Добрыя стасункі з адміністрацыяй Аляксандра Лукашэнкі і наладжаныя эканамічныя кантакты паміж дзвюма краінамі (уключаючы пакуль што недаказаныя пастаўкі ваеннай тэхнікі ў Багдад) пагражаюць яму «вылезці бокам». Магчыма, шляхі на радзіму для Сальмана Зейдана, яго жонкі і двух сыноў, якія цяпер знаходзяцца ў Мінску, будуць адрэзаны, таму зараз дыпламат ліхаманкава шукае, куды падацца.

З незалежных крыніцаў у прэсу прасачылася інфармацыя, што яшчэ да пачатку ваенных дзеянняў Сальман Зейдан зняў з рахунка іракскага пасольства ў Мінску 500 тысяч даляраў і закрыў іх у сваім сейфе. Беларусбанк, на рахунках якога захоўваліся грошы, інфармацыю не пацвердзіў, але і не абвергнуў, спасылаючыся на таямніцу ўкладу. Затым пасол пачаў зандзіраваць глебу, ці можна яму застацца ў Мінску пасля заканчэння дыпламатычных паўнамоцтваў, але атрымаў адмову. Тады пытанне было пастаўлена інакш: Ці стане беларускі бок перашкаджаць выезду іракскага дыпламата разам з грашыма (пакінуць краіну з чамаданам даляравых купюраў не проста). Адказ быў наступны: нічым не дапаможам, але і перашкаджаць не станем. У пасольстве Ірака абвяргаюць інфармацыю пра знікненне грошай. А вось чыноўнік беларускага МЗС Андрэй Дашуцін, адказны за ўзаемаадносіны з Іракам, сказаў карэспандэнту «НГ», што пасол «мае поўнае права распараджацца банкаўскім рахункам» і скандал з гэтага рабіць не трэба. На думку Дашуціна, цалкам магчыма, што пасол проста хацеў засцерагчы тысячы даляраў, якія належаць іракскаму народу, ад арышту банкаўскіх рахункаў.

У пасольстве Ірака адзначылі, што Сальман Зейдан і яго сям'я ў дадзены час знаходзяцца ў Мінску, але зносіцца з прэсай дыпламат не жадае. Па словах памочніка пасла, яго шэф плануе вярнуцца ў Багдад, дзе намерваецца альбо чытаць лекцыі ва ўніверсітэце, альбо працаваць журналістам – у гэтай галіне ён мае 12-гадовы вопыт. Аднак у святле апошніх падзеяў чакаць цёплага прыёма на радзіме Зейдану не прыходзіцца – некалькі дзён назад амерыканцы знайшлі ў Іраку сакрэтны дакумент, які пацвярджае гатоўнасць беларускага боку навучаць іракскіх спецыялістаў па рамонце танкаў і сілавых установак. У знойдзеным факсе стаіць прозвішча жыхара Мінска, які ўзначальвае Таварыства беларускаіракскай дружбы і падтрымліваў цесныя сувязі з пасломм. З другіх крыніцаў паступіла інфармацыя аб тым, што Сальман Зейдан хацеў бы накіравацца ў Йемен, Алжыр ці Туніс. Праблема толькі ў атрыманні дазволу на ўезд у любую з намечаных краінаў.

**Вольга МАЗАЯВА**

**Ng.ru**

## Назіранні

# П'ем сваё!

Беларуския ўлады ўсур'ёз узяліся за абарону свайго піўнога рынку. Пасля ўвядзення шэрагу эканамічных захадаў па абмежаванні імпарту расійскага піва шэраг тамтэйшых броварных кампаній нават спынілі пастаўкі да нас сваёй прадукцыі. Зараз распрадаюцца старыя запасы. Прычым расійскае піва падаражэла на 250–400 рублёў. Беларускае піва стала таннейшым у сярэднім удвая. Натуральна, што цяпер беларусы будуць піць больш свайго піва. Вось ён здаровы эканамічны нацыяналізм у дзеянні! Давайце піць сваё!

# Бюро знаходак

Пры мінскай даведачнай службе «Інфалінія-085» нядаўна адкрылася бюро знаходак. Не, кімсьці згубленых, а кімсьці знойдзеных рэчаў тут не трымаюць. Затое маюць базу дадзеных на гэты конт.

Тыя, хто можа паведаміць пра знаходку, могуць званіць задарма, а тым, хто шукае сваю згубу, давядзецца плаціць за інфармацыю 650 рублёў. «Інфалінія» такім чынам выступае ў ролі пасярэдніка паміж знайшоўшым і згубіўшым.

# Мінскія гатэлі запальваюць зоркі

У беларускай сталіцы апошнім часам назіраецца сапраўдны бум на перайтварэнне мінскіх гатэляў у шматзоркавыя. Не так даўно пасля рэканструкцыі зноў адкрыўся чатырохзоркавы гатэль «Мінск». І вось у сталічных горадабудаўнікоў ужо выспелі новыя планы: таксама чатыры зоркі пасля рэканструкцыі атрымае гатэльны комплекс «Кастрычніцкі». Праўда, напачатку яго меркавалася зрабіць пяцізоркавым, але праектоўшчыкі прыйшлі да высновы, што тут немагчыма павялічыць плошчу нумароў, пабудаваць басейн і крытую паркоўку, чаго вымагае найвышэйшы гасцінічны статус. Зрэшты, у Мінску ўсё-такі будзе пяцізорковая гасцініца – яе пабудуюць на вуліцы Інтэрнацыянальная вышынёй у трыццаць з лішкам паверхаў. Дарэчы, яна стане самым высокім будынкам у горадзе.

Данута БІЧЭЛЬ



# Паміж часам і сонцам

***Вершы з кнігі «На белых аблоках сноў»***

* * *

утварае дарога
знак крыжа старога
і апроч мяне анікога

край зямлі свабодны ад зорак
нібы там пракаціўся паморак
маладзік як ножык-сцізорык

адна пры ўсім небакраі
каменне ў жменю збіраю
апроч неба нічога не маю

### Малітва наіўноты

не абмінай нашу хатку
прынясі майму татачку працы
ці на спадачку тым як святому
ягнятку
ці ў якім пераплеценым гарцы

а як зорачка з нябёс залатая
у гарчынь нашу студзеньку
студзіць
мама ў зоркі студнёвай пра
шчасце спытае
шчасце з неба няхай жа так
будзе

Ты як Сонейка поўнае ласкі
саграваеш лагоднае лета
сустракаю Цябе каля той
пералазкі
дзе слядочкі Твае з Назарэту

### Будслаў наш санктуарый

Божая Маці ў кароне спакою
хлопчыка туліць да сэрцы
рукою
ён Ёй трымае палец правіцы
Будслаў вышэй палітычнай
сталіцы

выбраца ў людзі з пяску
не маглі мы
цёплаю цемрай ідзём
пілігрымы
на літургію ліпнёвую ў Будслаў
збудзем крылатых пакорнымі-
будзем

Бог не смяецца ні з якага краю
чысты прагал ад Маскоўі
да немцаў
Божы прытулак ад сэрцаў
да смерцяў
Будслаў сваіх пілігрымаў збірае

### Да Будслаўскай Божай Маці

О Мадонна малога мястэчка
ў кароне світання
калі Тваё белае войска перад
Табою паўстане
на чыстых Тваіх дарогах
Тваіх пілігрымаў калоны
на ясных Тваіх нябёсах Тваіх
анёлаў заслоны
спакой на ўсход і на захад
перадаюць Тваё хоры
і чуе хвалебную песню глухі
забіты і хворы
і я стаю пасярод у Твайго
святога з'яўлення
а Ты ад мяне прымаеш слязу
любоў і маленне

### Да Маці Божай у Вострай браме

адчынена сэрца Марыі перад
сусветам
над скрыжаваннем пагоджаных
з воляю рук
вось гэты горкі аповед Бог
пра мяне даўно ведае
кладу пацалунак пакутны на
мой вастрабрамскі брук

жыццё мяне сціене а сэрца
жывога не вырве
абступяць з балота падлюгі
паставяць сумненні сцяной
прыходжу я з-за балота да
вастрабрамскае Вільні
ціха кажу падымі мяне адну
мяне нада мной

* * *

стамляюцца струны
ў старым піяніна
пабіўся збаночак
стамілася гліна

як бура ў бары
гэтак сэрданька ные
так сэрданька ные
а людзі зямныя

а кожны з іх першы
і кожнага здрадзіць
і ўсё гэта ведае
Божая Маці

### Санет

мой цэнтральны пляц свету
я на ім не жабрую манеты
ні санетаў чужых не саветаў
і ад Бога ніякіх сакрэтаў

ночка чыстая мы не адны
побач Коця схавалася ў сны
дрэмле знічка ля шэрай сцяны
навакол размаўляюць званы

выпаўзаюць з цямрэчы пачваркі
іх музычка бутэлькі і чаркі
тут вядзьмаркі і ўсе недаваркі

што мне гэтых пачварак баяцца
тут не месца співацца страляцца
выганяю ўсіх вон з майго пляцу

### Мацярынскае

ці ёсць такая краіна
вось зараз дзе ў людской хаце
маці выхоўвае сына
як Езуса Хрыстуса маці

Драгічын Скідаль і Мядзель
там ёсць зацішны куточак
дзе аслабелыя маці
сваіх не баяцца дочак

астатнія людскія справы
вершацца самі сабою
што даў нам Божа ласкавы
трымаецца толькі любоўю

### Выцінанка

на дзве роўныя лісцінкі
чысты ліст паперы склаў
ад слязінкі да слязінкі
выцінанку выцінаў

гэтак Божа свет стварае
нібы свой жывы абраз
так прыгожа паўтарае
толькі ўверх нагамі нас

тата мама Рэня я
наша рэчанька Гаўя
а за рэчанькай Гаўёй
тыя ж мы ўніз галавой

так дваімся ўчатырох
так нас паўтарае Бог
а хто стаў да Божых Брам
мы ўсе разам тут і там

### Ішла

як жа ішла я
і не выходзіла з цемры
у пустэчы ўва мне і навокал
не ведала меры

ці жыву я не чую
ці мне толькі сніцца
не пытала ні ў кога:
што маю - як тым падзяліцца

не ўзнімаю вачэй ад сябе
папяровай грацовай
да Таго хто сам сябе ўнізіў
да смерці крыжовай

у нікчэмных парожніх спакусах
ажно патанула
аж пакуль не патраціла ўсё

тады ўсё і вярнула

і натуру сваю і жыццё
і над лугам прастору
добры Божа мне рукі прасцёр
і падняў мяне ўгору

### У снах на аблоках

была я лёгкай як белы птах
тады я лётала ў снах
чыстай была як белы анёл
у снах не ўпала на дол

была я грэшнай ведзьмай была
лётаць у снах я магла
маланкай з громам у буры слоў
гарэла і лётала зноў

цяпер жыццё святое ў мяне
цяпер я лётаю ў сне
не ў вырай лячу а лячу дамоў
на белых аблоках сноў

* * *

хто злосці ўскладае малітвы
ад страху на полі бітвы
а хто ратуецца ў чыстых вачах
колеру спелай алівы

у проламках маці-Зямлі
ад болю шукаюць смерці
у сэрцы якое ўмее гаіць
у вогнішчы міласэрдзя

нічога не мусіць стацца
мой страх адкупіў мой Збаўца
змагу схавацца ў дупло душы
змагу сабою застацца

### Без сведкаў

шнурую словы ў шнурочак
так посна так нескаромна
таму мне светлыя ночы
што цёмнаму ночы цёмна

іду разоркай начною
як зорка да вадаёма
ідзе дарога ў бяссмерце
на гэтым на гэтым свеце

а людзі хочуць як лепей
таму без іх мне раскоша
най Ойча хто ёсць на небе
свяціся Імя Тваё Божа

пакуль шнурую шнурочкі
з сабой іду сабе ў прочкісухія
думкі ламаю
ламаць з кім хлеба не маю

### Буслік і хлопчык

нёс маленькага хлопчыка бусел
да святой Маці Божай у Будслаў
каб яго ахрысціла сказала ты мой
а пасля аддала яго маці зямной

не згубіўся малы ў балаціне
на той кладачцы тонкай націне
нарадзіўся таму не згубіўся
той згубіўся хто не нарадзіўся

маці-грэшніцы родзяць анёлкаў
Божа склейвае сэрцы з асколкаў

Вячаслаў ДУБІНКА

# Таямнічы крышталь



**Трымайся, Еўропа!**

Вяртаецца старэйшая дачка, студэнтка БДУ, дахаты са слязамі:

– Адабралі ледзь не палову стыпендыі на будаўніцтва новай бібліятэкі. Папярэдзілі ў дэканаце: калі пікнеце, дык самі ведаеце... Справа архінацыянальная...

На агранку новага «брыльянта» ў старца апошні рубель цягнуць і не саромеюцца. І ў будзен дзень, калі на свята бубны заляскаюць: будзе зіхацець той брыльянт, што сонечны палац у хмурны дзень. Шаноўны госць са сталіцы на лятак спяшаецца, голаў павярнуўшы, рот разявіць, – сілён, Лукашэнка. І праўда, чаго нервавацца, пляваць ад роспачы. Ну, знялі з цябе апошнюю кухвайку, але праз гадок, другі Еўропа пыхлівая, на харчах каларыйных раз'етая, ад зайздрасці рот разявіць. Бульбашы, у каторых пенсійная пайка на гэтыя самыя у.а. у сярэднім 35–45, а, бачыш! У голым полі, дзе пустабрэх, лапушынне ў субяседніка ўзяўшы, шчыраваў наўкола старасавецкіх драўляных дамкоў, што курыліся пад шчымліва-радасным савецкім небам, усыпальніцу мудрасці чалавечай, схоўню дарагую для найвялікшага дзіва – кнігі ўзводзяць. Няхай з шапкай па кругу, няхай сабе, але паўмільярда нажабраваць, – талент які трэба.

Не адно суседзь Расеі гістарычнымі будоўлямі пахваляцца. Ускіндрычыўся люд чыноўны, кепачкай маскоўскай гуканы. На месцы, дзе рабілі водныя плёхі маскоўцы ў вялікіх бетонных начвах, храм вялікі ўзвялі, што той Егіпет пляціну на рацэ знакамітай. Тры мільярды угахалі, гэтых самых у. а., а, бачыш, здзейснілі! Спытайцеся, людцы, ці жыццё пасля Храма свяцейшым і спакайнейшым стала, жабракоў па Расеі паменела, а бамжы апранулі пекныя фракі. Багаты турыст іншаземны ходзіць па гулкіх залачоных пакоях і дзівіцца: адкуль такая, «вопиющая роскошь», калі з вакна цягніка бачылі іншую Русь, ад Вязьмы пачынаючы, адно сонейка вочы пратрэ...

**Сімвал ведаў**

А якое грамадства мецьмем мы, менавіта да таго ўрачыстага дня, калі правадыр ціхмянасярмежных беларусаў, музыкаў прыгнаўшы, збіўшы да сьвяточна-маўклівае купы сваё чынавенства, паплечнікаў, шчасліваадданых, удзячных, але з дуляй у кожнай кішэні... Не верце аніхому, што Беларусь - самая адукаваная на постсавецкай прасторы, усё гэта бальшавіцкай прапаганды міты, што ўбіваліся палітработнікамі.

Не трэба краіне такіх дарагіх новабудоў, дзе звычайнапатрэбная кніжка для студэнта, як рыштунак муляру, каштуе куды болей, чым пузырок гарэлкі з «вінтом». У краіне, дзе ў звычайнай вёсачцы Бастынь, на Лунінеччыне, у выходны дзень пасля дванаццаці дня «увесь гужавы люд, – мужыкі» – літаральна ўсе, былі п'яныя...

Кажаце, паспяшаюцца ў чарговы бацькаў палац пенсіянеры, што плывуць па будзённых хвалях клопатаў, як гнілыя трэскі па талай вадзе. Яны, як акопнікі, пасля жыццёвае бітвы. Адлічваюць, пералічваюць затрэпаныя, замусоленыя дваццаткі, паўсоткі, падзеленыя, перакладзеныя, як ад сораму, пад зялёныя соткі. Падлічваюць небаракі, як купіць тое, што вочы не прымаюць.

Пабягуць, паспяшаюцца ў брыльянт сонна-абыякавыя юнакі і дзяўчаты, што з рання сноўдаюцца ў бетонных пераходах мінскага метро, ашчыперыўшы бляшанку-плашку пойла і закусваючы суслай з табакамі. Не, не пабягуць.

Не пабяжыць і мая сястрыца, якой паклалі пенсіі 40 у. а., і яна перашывае свой плашч дваццацігадовае даўніны.

Я апытаў сотню розных людзей, маіх сяброў, знаёмых, выпадковых людзей, добра апранутых і цвярозых.

– Калі ў апошні раз вы наведвалі галоўную бібліятэку краіны? Ці сваю, што пад бокам. У райцэнтры, у мястэчку, пасялковую. І што вы шукалі ў тым храме мудрасці? Які клопат пагнаў вас туды?

З апытаных – усе скрозь людзі паважаныя. Акадэмік, дырэктар акадэмічнага інстытута, член Канстытуцыйнага суда РБ, дырэктар буйнага завода ў Бабруйску, галоўны інжынер мэблевай фабрыкі, загадчык аддзела гандлёвай палаты «Белэспа», дэпутат-палатнік, «палкоўнік-дзеючы» і палкоўнік у адстаўцы, выкладчык міліцэйскай вучэльні, бізнесоўцы, чаўнакі, дойліды, журналісты і ...

Мне ветла ўсміхаліся і моўчкі ківалі галавой,— дзівак, знайшоў клопат. Ні ў музеі, ні на выставах, ні на імпрэзах, а тым болей, у бібліятэках – не, не і яшчэ раз не... Але ўсе яны ўжо «добраахвотна» мусілі аплаціць агранку «брыльянта». І, праўда, лепей даць, чым прасіць, – спяваў некалі жабрак на Слуцкім кірмашы, Лявон Квасыніцкі.

**Пастаўка макулатуры**

У знявечаным за гады панавання самай чэснай партыі храме святога Роха, што на Залатой Горцы, была некалі складоўня-могільнік для кніг. У тым разбураным напалову храме гібелі кнігі. Некалькі эшалонаў кніг прывезлі з



Парыжа, Прагі, Берліна і звалілі, як дровы, у цвілым памяшканні помніка архітэктуры. І якія кнігі! І гібелі б доўга, да скону, анікому не патрэбныя. Але наш дарагі Леанід Ільіч, пяць разоў вялікі герой, падпісаў, не чытаючы, дакумент у Хельсінкі. Значыцца, гані цыган, коней, якія нахапаў пад гарачую руку, вяртайце тое, што вам не належыць. Сотні тысячаў кніжак вяртайце ў Парыж, Прагу, Берлін, Вену. Хопіць ім гібець у касцёле св. Роха. Тысячы ўжо скрадзены, патрапілі на паліцы букіністычных выданняў. А гаспадар над імі – бібліятэка імя Леніна.

А хваробы не хацелі, – мудра рашылі ў нашым жоўта-белым доме. І падагналі да касцёла задрыпаныя самасвалы і спехам, што торфакрошку ў сельгасарцелі, грузілі кнігі. І куды ж? Здагадайся, чытач! І не бярыся, слабо! На рыззё, на макулатуру, на майданчык вуліцы Карла Лібкнехта, а там у вагоны і ў Асіповічы, на капрон! А лепей у кацельню, на растоп.

Мастак Уладзімір Басалыга, яго пакойчык вокнамі на храм, прыгадваў: – Я не паверыў вачам сваім, – кнігі грузім, як смецце! Рвалі вокладкі, шкуматалі... Я бегам туды. Куды ж вы, людзі, дабро вязеце?... Там скураныя фаліянты... Старадрукі, рэдкія выданні... Тысячаў са тры мы ў мастацкі фонд зацяглі. А вокладкі знявечаных я згроб, экслібрысы пабачыўшы. Зборы кніг фамільныя: Ротшыльды, Крупы, Манштэйны, са збораў Парыжскай бібліятэкі Тургенева...

Спяшаліся. Трасцу вашай матары, капіталісты, а не кніжкі, няхай лепш на кардон. А кніжкі належалі самай галоўнай бібліятэцы краіны.

**Кнігалюбы**

Былы партыйны бацька савецкае Беларусі Панцяляймон Панамарэнка нагроб з трафейных кнігазбораў для свайго лецішча не адну тысячу дарагіх скураных фаліянтаў. А чаго саромецца? Неяк мой знаёмца, начальнік пажарнай часткі Мінска, пахваліўся набыткам. Рэдкае выданне. Прыжыццёвыя мемуары на французскай і расейскай мовах княгіні Валконскай. Пячатка на тытуле – кнігазбор Тургенева, яго знакамітая парыжская бібліятэка. А побач тлусты штам, як з аддзела кадраў – «книги из библиотеки П.К.Пономоренко»

– Гарэў дом Панцеляймона, на лецішчы, з агню мемуары гэтыя выратаваў.

А згарэла іх – гара чорных асмалкаў курэла некалькі дзён.

«Заўзятым кнігалюбам» лічыў сябе і пастаўшчык рабсілы з Беларусі на будоўлі камунізму Лаўрэнцій Цанава. У ягоным сціплым дамочку ў Ждановічах тых нарабаваных кніг было – цёмна. І ўсе з трафейных вагонаў. Бралі ўсе, каму не лянота.

На рыззёвай базе, што атабарылася на вул. Карла Лібкнехта, я ўбачыў гару прыдатных на выгляд, а іх прывезлі з бібліятэкі імя Леніна. Нашы руплівцы прыгожага пісьменства – Б.Мікуліч, Т.Кляшторны, М.Гарэцкі, В.Быкаў, Я.Колас, Я.Купала, Я.Брыль. І занадта шанаванага ўладамі Івана Пятровіча Шамякіна.

Бібліятэка імя Леніна рабіла чаргова-планавы шмон. І толькі пасля я даведаўся, што сотні тысячаў кніжак, звезеных на эшафот, недзе ж лічацца ў рэестрах як бібліятэчныя «байцы», што змагаюцца за культуру, напаўняюць нас гонарам.

А яны «мёртвыя», іх даўно няма, яны ляжаць у брацкіх магілах, рупліва парэзаныя гільяцінай.

У Міры летась ладзілі свята пісьменства. Угахалі шмат грошай, каб навесці марафет. Але ўшчэнт забыліся пра кнігі. Газета «Звязда» сарамліва дала фотаздымак. Бібліятэкаркі Міра сядзяць на кніжных звязках, зваленых у выпадковым памяшканні. Да новага свята прыгожага пісьменства, дасць Божа, і пашануюць.

У бездухоўным грамадстве будуюць храм духоўнасці. Хто ж падлічыць, колькі згібела за апошнія гады вясковых клубаў, мястэчковых бібліятэк, дый раённыя дыхаюць мяртвечынай. Сарамліва-сярмяжнае жабрацтва, пра якое маўчаць.

**Гукайце, хлопцы**

Вось тут, на ўскраіне Мінска рупныя будаўнікі брыльянта.

Я некалькі гадзін хадзіў па наваколлю, якое неяк адразу, гвалтоўна ачысцілі бульдозерамі, абгарадзілі металічным плотам, каб у неспрыяльнае надвор'е ўскапаць зямлю, натыркалі бетонных даўбеляў – той падмурак, што балючая стрэмка. Побач былі знявечаны дзесяткі помнікаў, што вартавалі могілкі. Абышліся не палюдску, няма калі цацкацца, узводзілі храм духоўнасці. Лайдачная беларусь замахнулася вунь на які гмах. А чаго ж! У нас і аб'езд – асфальтоўка пад Ждановічамі лепшая, чым у Варшаве. Гадзіннік на гатэлі «Беларусь» большы, чым у Парыжы. Нашы лапці самыя вясёлыя, бо рыпучыя і для балота самы цымус. Народ шчыры, памяркоўны і працавіты. Прыбіральняў людскіх не мае, жыве, як хворы спявае. Вёскі вымірають, народ самотны, – спіты, а з брыльянтам у момант акрыяе.

Трэба і мне ганарыцца. Мяркую, колькі з маіх 39 у. а. пенсійных адшчыкнуць на «брыльянт» – няхай зіхаціць. І мы не бацькавай дратвой шытыя.

## Каментар рэдакцыі

Усё ж цяжка пагадзіцца з шаноўным пісьменнікам Вячаславам Дубінкам, што будаўніцтва новай бібліятэкі магло пачакаць. Хоць туды не ходзіць ніводзін прыяцель аўтара, гэта не надта паважная падстава, каб адкласці такую справу на будучыню. Нацыянальная бібліятэка пакутвала ад недахопаў плошчаў літаральна з першага дня свайго існавання. Даваенны праект будаўніцтва «ленінкі» прадугледжваў, што карпусы бібліятэкі займуць увесь квартал – уніз да Свіслачы і да вуліцы К.Маркса. Пасля вайны да галоўнага корпуса дабудавалі яшчэ адзін. Не вырашыла праблемы і выкарыстанне пад бібліятэчныя патрэбы былых пакояў райкама партыі.

Пашырэння бібліятэкі чакалі даўно, і тое, што зараз гэта пытанне вырашаецца, вельмі добра. Зразумела, шкада, што вясковыя бібліятэкі прыходзяць у заняпад, але гэта асобная праблема. Тое, што там гінуць кнігі, не азначае, што не трэба будаваць сучаснае кнігасховішча і сучасныя чытальныя залі. Іншая справа, што праект Нацыянальнай бібліятэкі выклікае шмат прэтэнзіяў як па месцы яе размяшчэння, гэтак і сапраўды дзіўным мастацкім вырашэннем, крышталічнай формай, якая сімвалізуе што заўгодна, але не кніжную мудрасць. Можна пашкадаваць, што праект не абмяркоўваўся, а зацвярджаўся келейна, і цяпер вечна будзе дзівіць культурных гасцей Мінска .Магчыма, можна было спраектаваць больш зручны і больш танны будынак, без недарэчнай аздобы ў выглядзе пляцоўкі для агляду прылеглых мікраёнаў з даху і не такой малаадпаведнай кнізе вышыні (72 метры), што ў выпадку паломкі ліфта ўнемагчыміць працу ў бібліятэцы.

# Часатрасенне

## *Урывак з рамана*

### Курт ВАНЕГУТ



Курт Ванегут (нарадзіўся 11 лістапада 1922 года) – амерыканскі пісьменнік, адзін з самых вядомых сучасных празаікаў. Ён – удзельнік Другой сусветнай вайны, ваяваў разведчыкам, напрыканцы вайны патрапіў у палон да немцаў, быў сведкай знішчэння саюзнай авіяцыяй Дрэздэна (за 14 гадзін бамбавання горада загінулі 250 тысяч чалавек, гэта ў тры разы болей, чым у Хірасіме).

Па адукацыі Ванегут інжынер-хімік, працаваў крымінальным рэпарцёрам, агентам па продажы аўтамабіляў. З 1950 года займаецца літаратурнай працай. Курт Ванегут – аўтар сусветна вядомых раманаў «Утопія-14», «Калыска для кошкі», «Бойня № 5, або крыжовы паход дзяцей», «Маці Цемра», «Сірэны Тытана». Раман «Часатрасенне» напісаны тры гады назад. Апублікаваўшы яго, Курт Ванегут абвясціў, што пакідае пісьменніцкі занятак. «Часатрасенне» можна назваць выніковай кнігай мудрага, таленавітага і шчырага чалавека, сапраўднага гуманіста, якіх сёння не надта шмат.

2

Уявіце сабе вось што: вядомы амерыканскі універсітэт распусціў свой футбольны клуб з меркаваннаў здаровага сэнсу. У выніку вызвалены стадыён ператвараецца ў завод па вытворчасці бомбаў. Так, здаровага сэнсу хоць адымай.

Узгадваем Кілгора Траута.

Я кажу пра сваю альма-матар, Чыкагскі універсітэт. У снежні 1942 года, задоўга да таго, як я туды паступіў, пад трыбунамі стадыёна Стэгфілд упершыню ў свеце вучоныя запусцілі ланцуговую рэакцыю распаду ўрану. Іхнай задачай было прадэманстраваць магчымасць стварэння атамнай бомбы. Мы ваявалі з Германіяй і Японіяй.

Праз 53 гады, 6 жніўня 1995 года, ва універсітэцкай царкве адбылася сустрэча ў гонар 50-й гадавіны выбуху першай атамнай бомбы над Хірасімай. Там было шмат людзей, і сярод іх я.

Адным з выступоўцаў быў фізік Ляон Сярэн. Ён уваходзіў у групу эксперыментатараў, якія шмат гадоў таму запусцілі пад бязлюднай спартыўнай пабудовай ланцуговую рэакцыю. Толькі падумайце? Ён прабачаўся за тое, што прымаў у гэтым удзел.

А зараз уявіце сабе вось што: чалавек стварае вадародную бомбу для гэтых параноікаў у Савецкім Саюзе, пераконваецца, што яна працуе, а потым атрымлівае Нобелеўскую прэмію Міру. Такі сюжэт па таленце Кілгору Трауту, але чалавек той існаваў на самой справе, гэта быў фізік Андрэй Сахараў.

Ён атрымаў Нобелеўскую прэмію ў 1975 годзе за патрабаванне адмовіцца ад выпрабаванняў ядзернай зброі. Ну, сваю бомбу ён да таго часу ўжо выпрабаваў. Яго жонка была дзіцячы доктар! Кім трэба быць, каб распрацоўваць ядзерную бомбу, калі твая жонка – дзіцячы доктар? І што гэта за доктар, што гэта за жанчына, якая не развядзецца з мужам, у якога нагэтулькі паехаў дах?

«Дарагі, сёння на працы было што-небудзь цікавае?»

«Так, мая бомба выдатна працуе. А як пачуваецца той малы, які падхапіў вятранку?»

Андрэй Сахараў лічыўся свайго роду святым у 1975 годзе. Пра гэта ўжо забыліся – «халодная вайна» скончылася. Ён быў дысідэнтам у Савецкім Саюзе. Ён заклікаў да забароны распрацовак і выпрабаванняў ядзернай зброі, а разам патрабаваў свабоды для свайго народа. Яго выключылі з Акадэміі навук СССР. Яго саслалі на паўстанак сярод вечнай мерзлаты.

Яго не выпусцілі ў Осла атрымаць Нобелеўскую прэмію. Яго жонка, дзіцячы доктар Алена Бонар, атрымала прэмію замест мужа. Але ці не здаецца вам, што даўно час задацца пытаннем: ці не была яна болей дастойная Прэміі Міру? Доктар – любы доктар – ці не болей варты Прэміі Міру, чым стваральнік вадароднай бомбы – хто б ён ні быў, на які б урад ні працаваў, у якой бы краіне ні жыў?

Правы чалавека? Скажыце мне, а вадародная бомба - не пляваць ёй на правы чалавека, ды і на правы любой жывой істоты? Скажыце мне, каму на свеце болей пляваць на чыёсці правы?

У чэрвені 1987 года Сахараў быў абраны ганаровым доктарам Каледжа вострава Статэн, штат Нью-Ёрк. І зноў яго ўрад не дазволіў яму асабіста ўдзельнічаць у цырымоніі. І мяне папрасілі выступіць ад яго імя.

Усё, што мне трэба было зрабіць, – зачытаць пасланне ад Сахарава. Вось яно: «Не варта адмаўляцца ад атамнай энергіі». Я сыграў ролю дынаміка.

Які я быў ветлівы! Адбылося ж гэта ўсяго праз год пасля самага жахлівага ядзернага бедства, якое напаткала нашу ненармальную планету – катастрофы ў Чарнобылі. Ад выкідаў радыяцыі пацярпелі – і яшчэ пацерпяць – дзеці ва ўсёй Паўночнай Еўропе. Дзіцячыя дактары забяспечаны працай на шмат гадоў наперад.

Бязглузды заклік Сахарава парадаваў мяне меней, чым учынак пажарных са Сканэктадзі, штат Нью-Ёрк, пасля паведамлення пра катастрофу на Чарнобыльскай АЭС. Я сам некалі працаваў у Сканэктадзі. Пажарнікі паслалі ліст сваім калегам, у якім выказвалі захапленне іх храбрасцю і самаахвяраваннем дзеля выратавання людзей і маёмасці.

Няхай жывуць пажарнікі!

Людзі, якіх звычайна лічаць адкідамі грамадства, – іншым разам так яно і ёсць, – могуць паводзіць сябе як святыя, калі пад пагрозай чыёсьці жыццё.

Няхай жывуць пажарнікі!

3

У першай кнізе пра катаклізм Кілгор Траут напісаў апавяданне пра атамную бомбу. З-за катаклізму яму давялося напісаць яго двойчы. З-за катаклізму нас адкінула назад на дзесяць гадоў, і таму і ён, і я, і вы, і ўсе астатнія паўтарылі ўсе нашыя дзеянні, зробленыя з 17 лютага 1991 года па 13 лютага 2001 года, яшчэ адзін раз.

Траут быў не супраць напісаць гэтае апавяданне. Якая розніца - да катаклізму, пасля катаклізму? Пакуль ён, апусціўшы галаву, крэмзае шарыкавай асадкай на аркушыку жоўтай паперы, ён можа жыць гэтым дзярмовым жыццём.

Ён назваў сваё апавяданне «Нічога смешнага». Ён выкінуў яго раней, чым хто-небудзь паспеў яго ўбачыць, і цяпер яму прыдзецца выкінуць яго наноў, бо час вярнуўся назад на дзесяць год. На пікніку ў канцы першай кнігі пра катаклізм, летам 2001 года, Траут узгадаў аб усіх сваіх апавяданнях, якія ён падраў на шматкі, ці спусціў ва ўнітаз, ці выкінуў на сметнік, ці куды-небудзь яшчэ. Вось што ён сказаў: «Як нажыта, гэтак і пражыта».




Траут назваў сваё апавяданне «Нічога смешнага», бо гэтыя словы прамовіў адзін з персанажаў апавядання, суддзя на сакрэтнай нарадзе ў ваенным трыбунале па справе экіпажа амерыканскага бамбавіка «Прайд Джой» на ціхаакіянскім востраве Баналулу праз месяц пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

Сам самалёт «Прайд Джой» быў у добрым стане, ён стаяў у ангары, там, на Баналулу. Ён быў названы ў гонар маці першага пілота, Джой Петэрсан, медсястры радзільнага аддзялення адной бальніцы ў горадзе Корпус-Крысці, штат Тэхас. У англійскай мове слова «прайд» мае два значэнні. Наогул яно азначае «гонар». Але яно азначае і «сям'я львоў».

А справа была вось у чым. Адну атамную бомбу скінулі на Хірасіму, потым яшчэ адну – на Нагасакі, а «Прайд Джой» павінен быў скінуць трэцюю бомбу – на Ёкагаму, на пару мільёнаў «маленькіх жоўтых вырадкаў». Маленькіх жоўтых вырадкаў называлі тады «маленькімі жоўтымі вырадкамі». Вайна, самі разумееце. А вось як Траут апісвае трэцюю атамную бомбу: «малінавая дура памерам з паравы кацёл сярэдніх памераў бойлернай».

Яна была вельмі вялікая і не праходзіла ў бамбалюк. Яе падвесілі да фюзеляжа. Калі «Прайд Джой» бег па паласе, каб узняцца ў нябесны блакіт, бомбу і бетонную дарожку раздзяляў усяго адзін фут.

Калі самалёт наблізіўся да мэты, пілот закрычаў у інтэркам, што яго маці, сядзелку ў радзільным доме, будуць гушкаць, калі яны выканаюць заданне. Бамбавік «Энола Гей» і жанчына, у гонар якой ён быў названы, сталі знакамітымі, як кіназоркі, пасля таго, як самалёт скінуў свой груз на Хірасіму. У Ёкагаме было ўдвая болей жыхароў, чым у Хірасіме і Нагасакі ўзятых разам.

Чым болей пілот пра гэта думаў, тым мацней яму здавалася, што яго любімая маці – бацька ўжо даўно памёр – ніколі не здолее сказаць рэпарцёрам, нібыта яна шчаслівая ад таго, што самалёт, якім кіраваў яе сын, паставіў сусветны рэкорд па масавых забойствах за рэкордна кароткі тэрмін – адразу.

Апавяданне Траута нагадала мне, што неяк мая дваюрадная бабка Эма Ванегут – на той час ужо старая – сказала, што яна ненавідзіць кітайцаў. Яе зяць Керф'ют Сцюарт, гаспадар «Кнігарні Сцюарта» ў Луісвіле, штат Кентукі, прысароміў яе. Ён сказаў, што немаральна ненавідзіць столькі людзей разам.

Але вернемся да нашых баранаў.

Члены экіпажа «Прайд Джой» паведамілі пілоту, што перажываюць такія ж пачуцці, што і ён. Яны былі абсалютна адны ў небе. Ім не патрабавалася суправаджэнне – у японцаў не засталося самалётаў. Па сутнасці, вайна скончылася (заставалася толькі падпісаць пару папер). Можна сказаць, што яна была скончаная яшчэ да таго, як «Энола Гей» ператварыла Хірасіму ў крэматорый.

Працытуем Кілгара Траута: «Гэта была ўжо не вайна – нават бамбаванне Нагасакі ўжо не было вайной. Гэта было выступленне пад назвай «Дзякуй янкі за добра выкананую працу!» Гэта быў шоў-бізнес узору 1945 года.

У апавяданні «Нічога смешнага» Траут пісаў, што пілот і яго экіпаж у часе сваіх папярэдніх вылетаў адчувалі сябе багамі – яшчэ тады, калі скідвалі на людзей усяго запальныя бомбы, узрыўчатку. «Але яны адчувалі сябе багамі з маленькай літары, – напісаў ён. – Яны адчувалі сябе маленькімі бажкамі, якія толькі помсцілі і руйнавалі. А цяпер, адныя ў агромністым небе, яны адчулі сябе Вялікім Начальнікам, самім Госпадам Богам. А ў яго меўся выбар, якога раней у іх не было. Вялікі Начальнік мог не толькі пакараць, ён мог яшчэ і злітавацца».

Траут і сам удзельнічаў у Другой сусветнай вайне, але не лётчыкам і не на Ціхім акіяне. Ён быў карэкціроўшчыкам агню ў палявой артылерыі ў Еўропе, гэтакім лейтэнанцікам з біноклем і рацыяй. Ён знаходзіўся ці на самай лініі фронту, ці нават далей. Ён паведамляў батарэям, што стаялі ззаду, дзе іх шрапнель, ці белы фосфар, ці чым там яны яшчэ страляюць можа прынесці максімальную карысць.

Сам ён, натуральна, нікому не дараваў і, па яго ўласных словах, ніколі не адчуваў, што павінен некаму дараваць. Я спытаў яго на пікніку ў 2001 годзе, у доме для састарэлых пісьменнікаў пад назвай «Занаду», што ён рабіў у часе вайны, якую называў «другой няўдалай спробай цывілізацыі пакончыць з сабой».

Ён адказаў без ценю шкадавання: «Я рабіў з нямецкіх салдат сэндвічы паміж зямлёй і небам, а навокал выла завея, толькі вецер нёс замест снегу тысячы брытваў».

Пілот «Прайд Джой» павярнуў самалёт і лёг на зваротны курс. Малінавая дура ўсё гэтак жа вісела пад фюзеляжам. Пілот вёў самалёт назад да Баналулу. «Ён зрабіў гэта, – пісаў Траут, – бо яго маці было б прыемна, каб ён учыніў менавіта такое».

Потым на сакрэтным слуханні ў ваенным трыбунале справы экіпажа «Прайд Джой» у адзін цудоўны момант з усімі прысутнымі здарыўся прыступ гістэрычнага рогату. Галоўны суддзя ўдарыў у гонг і абвясціў, што ў дзеяннях падсудных няма «нічога смешнага». А рогат быў выкліканы аповядам пракурора пра тое, як паводзілі сябе людзі на базе ў той момант, калі «Прайд Джой» зайшоў на пасадку з малінавай дурай пад брухам усяго за адзін фут ад пасадачнай паласы. Усе павыскоквалі цераз вокны. Усе наклалі ў штаны.

«Усё, што магло рухацца, прыйшло ў рух. Такой колькасці сутыкненняў такіх розных машын яшчэ свет не бачыў», – напісаў Кілгор Траут аб пачуццях тых людзей.

Ледзь суддзя аднавіў парадак, як на дне Ціхага акіяна ўтварылася расколіна. У яе праваліўся востраў Баналулу, ваенны трыбунал, «Прайд Джой», нескарыстаная атамная бомба і ўсё астатняе.

Працяг на стар. 10

Заканчэнне. Пачатак на стар. 9

4

Калі таленавіты нямецкі раманіст і мастак Гюнтар Граас пачуў, што я нарадзіўся ў 1922 годзе, ён сказаў мне: «У Еўропе не засталося мужчын твайго ўзросту». У часе маёй вайны і вайны Кілгора Траута ён быў дзіцем, як і Элі Візел, Ежы Казінскі, Мілаш Форман ды іншыя. Мне дужа пашанцавала, што я нарадзіўся тут, а не дзенебудзь яшчэ, што я нарадзіўся белым, што я нарадзіўся ў сям'і сярэдняга амерыканца, што я нарадзіўся ў вялікай сям'і з кучай сваякоў. Ні сям'і, ні сваякоў болей няма.

Гэтым годам я слухаў лекцыю паэта Роберта Пінскага, у якой ён прабачаўся за тое, што яго жыццё было нашмат лепшым, чым у мноства іншых людзей. Ён казаў такім тонам, нібыта хацеў паднесці ўсім прыклад. Ну што ж, я таксама, відаць, папрашу прабачэння.

Я ўжо прасунуўся ў гэтым напрамку. Зручны выпадак надарыўся ў мінулым траўні. У сваёй прамове на выпускным вечары ў Батлерскім універсітэце я аддаў належнае месту, дзе нарадзіўся. Вось што я сказаў: «Калі б я мог пражыць жыццё наноў, я жадаў бы яшчэ раз з'явіцца на свет у радзільным доме ў Індыянаполісе. Я жадаў бы наноў правесці сваё дзяцінства ў доме 4365 на Норт-Ілінойс-стрыт, за дзесяць кварталаў адсюль, і зноў апынуцца выпускніком мясцовай сярэдняй школы.

Я зноў прайшоў бы курсы бактэрыялогіі і якаснага аналізу ў летняй школе пры Батлерскім універсітэце.

Тут было ўсё – усё для вас і ўсё для мяне – усё самае кепскае і самае лепшае ў заходняй цывілізацыі. На гэта трэба было толькі звярнуць увагу. Тут было ўсё: музыка, фінансы, кіраванне, архітэктура, права, скульптура, выяўленчае мастацтва, гісторыя, медыцына і спорт, усе раздзелы навукі і кнігі, кнігі, кнігі, настаўнікі і ўзоры для пераймання.

Тут былі людзі: такія разумныя, што ў гэта немагчыма паверыць, і такія тупыя, што ў гэта немагчыма паверыць, такія добрыя, што ў гэта немагчыма паверыць, і такія подлыя, што ў гэта таксама немагчыма паверыць».

Я даў ім параду. «Мой дзядзька Алекс Ванегут, страхавы агент з гарвардскай адукацыяй, які жыў у доме 5033 на Норт-Пенсільванія-стрыт, навучыў мяне аднаму важнаму пачуццю. Ён сказаў, што мы павінны абавязкова навучыцца прыкмечаць, калі нашыя справы ідуць па-сапраўднаму добра.

Ён казаў аб простых рэчах, не аб якіхсьці там здзяйсненнях: вось ты п'еш ліманад у ценю ў спякотны дзень, ці адчуў пах хлеба з суседняй крамы, ці ловіш рыбу, і табе не важна, зловіш ты што-небудзь ці не, ці калі чуеш, як за суседнімі дзвярыма нехта добра грае на піяніне.

Дзядзька Алекс пераконваў мяне, што ў такія моманты трэба казаць: «Калі гэта не цуд, дык што гэта?»

Вось у чым мне яшчэ пашанцавала: першыя трыццаць пяць гадоў майго жыцця пісанне апавяданняў чарнілам на паперы было адной з галоўных галінаў амерыканскай прамысловасці. Хоць у мяне ўжо была жонка і двое дзетак, я вырашыў пакінуць пасаду рэкламнага агента ў фірме «Джэнерал электрык» (адмовіўшыся гэтым самым ад зарплаты, страхоўкі і пенсіі), бо гэта было выгадна. Я мог зарабіць нашмат болей, прадаючы апавяданні ў «Сатэдэй іўнінг пост» і «Кальерс». У гэтых штотыднёвіках было некуды падзецца ад рэкламных аб'яваў, але ў кожным нумары друкавалася па пяць апавяданняў і ў дадатак працяг якога-небудзь рамана з серыі «захапляе – не адарвешся».

І гэтыя два часопісы ўсяго толькі плацілі мне болей за ўсіх. Было гэтак многа часопісаў, якіх хлебам не кармі – дай надрукаваць апавяданне, што пісьменнік адчуваў сябе як чалавек, які прыйшоў у цір з драбавіком: як ні страляй, усё роўна патрапіш. Калі я адсылаў па пошце майму агенту новае апавяданне, я быў цалкам упэўнены, што хто-небудзь у мяне яго набудзе, хоць бы яго адхіліла цэлая сотня выдавецтваў.

Але хутка пасля таго, як я перавёз сям'ю з Скенэктадзі, штат Нью-Ёрк, у Кейп-Код, штат Масачусетс, з'явілася тэлебачанне, і рэкламадаўцы забылі пра часопісы. Часы, калі можна было зарабляць на жыццё, абстрэльваючы апавяданнямі выдавецтвы, назаўжды сышлі ў нябыт.

Спачатку я працаваў у прамысловым рэкламным агенцтве, вынікам чаго былі штодзённыя паездкі з Кейп-Кода ў Бастон, потым стаў дылерам па продажы аўтамабіляў «Сааб», а потым – выкладчыкам англійскай мовы ў прыватнай школе для неадораных дзяцей багатых бацькоў.

У майго сына, доктара Марка Ванегута – ён напісаў крутую кнігу пра тое, як ён у 60-я гады з'язджаў з глузду, а потым закончыў медыцынскі факультэт у Гарвардзе, – гэтым летам прайшла выстава акварэляў у Мільтане, штат Масачусетс. Рэпарцёр спытаў яго, як яму было ў дзяцінстве адчуваць сябе сынам знакамітасці.

Марк адказаў: «Калі я быў маленькі, мой бацька гандляваў машынамі, бо яго не бралі на працу ў каледж у Кейп-Кодзе».

5

Я да сёння час ад часу пішу апавяданні - нібыта гэта яшчэ прыносіць грошы. Ад старых звычак цяжка пазбавіцца. Апроч таго, некалі гэтак стваралі сабе імя. Начытаныя людзі ў мінулыя часы з запалам абмяркоўвалі новыя апавяданні Рэя Брэдберы ці Джэрома Сэлінджэра, Джона Чывера, Джона Кальеры, Джона О'Хары, ці Фланеры О'Конар, ці каго-небудзь яшчэ, які «толькі што выйшаў у такімсьці часопісе».

Finita la commedia.




Усё, што я цяпер раблю з сюжэтамі сваіх апавяданняў, – дык гэта запісваю іх, як запішацца, аб'яўляю іхнім аўтарам Кілгора Траута і раблю з іх раман. Вось пачатак аднаго такога апавядання, ён узяты з першай кнігі пра катаклізм, называецца «Сёстры Б-36»: «На матрыярхальнай планеце Бубу ў Крабавіднай туманнасці жылі тры сястры з прозвішчам Б-36. Гэтак жа называецца бамбавік, прыдуманы на планеце Зямля, каб скідваць бомбы на мірнае насельніцтва краінаў з праджанымі ўрадамі. Гэтае супадзенне, канешне, цалкам выпадковае. Зямля і Бубу знаходзіліся занадта далёка адна ад адной, жыхары планет нават не падазравалі аб існаванні сваіх братоў па разуму.

Было яшчэ адно супадзенне: пісьмовая мова на Бубу была падобная на зямную англійскую – яна таксама складалася з дваццаці шасці фанетычных сімвалаў, дзесяці лічбаў і васьмі ці каля гэтага знакаў прыпынку, хітрым чынам аб'яднаных у паслядоўнасці, падзеленыя на часткі, размешчаныя гарызантальна адна пад адной.

Усе тры сястры былі прыгожыя, працягваў Траут, але любілі на Бубу толькі дзвюх з іх – мастачку і пісьменніцу. Трэцюю – вучонага – ніхто не хацеў ведаць. Яна была гэтакая зануда! Яна магла размаўляць толькі пра тэрмадынаміку. Яна была зайздросная. Яе тайным жаданнем было зрабіць гэтак, каб яе сёстры – гэтыя «творчыя натуры – адчулі сябе, па любімаму выразу Траута, «як апошняе дзярмо».

Траут сцвярджаў, што жыхары Бубу ўмеюцьпрыстасоўвацца ледзьве не лепш за ўсе іншыя стварэнні ў мясцовым скапленні галактык. Справа ў тым, што ў іх асаблівы мозг. Яго можна запраграмаваць рабіць адно і не рабіць іншае, адчуваць так ці адчуваць інакш. Страшна зручна!

Праграмаваўся мозг проста. Не патрэбны былі ні хірургія, ні электроніка. Рабілася гэта праз соцыум – гэта значыць размовамі, размовамі і яшчэ раз размовамі. Дарослыя казалі малым, якія пачуцці і дзеянні бролей пажаданыя. У маладым мозгу ўтвараліся, адпаведна, патрэбныя зоны, і атрымоўвалася так, што малады арганізм здзяйсняў учынкі і атрымоўваў задавальненне абсалютна аўтаматычна.

Гэта было някепска. Напрыклад, калі нічога асабліва не адбывалася, жыхары Бубу маглі захапляцца самымі простымі рэчамі, накшталт дваццаці шасці фанетычных сімвалаў, дзесяці лічбаў і васьмі ці каля гэтага знакаў прыпынку, хітрым чынам аб'яднаных у паслядоўнасці, падзеленыя на часткі, размешчаныя гарызантальна адна пад адной, ці накшталт плямаў фарбы на плоскіх паверхнях, узятых у рамы.

Калі малы чытаў кніжку, дарослы мог перапыніць яго, каб сказаць нешта такое: «Хіба гэта не сумна? Цудоўнага сабачку маленькай дзяўчынкі пераехаў сметнікавоз. Хіба табе не хочацца плакаць?» Канечне, канкрэтна ён скажа, залежала ад таго, пра што вялася гаворка ў кніжцы. Адносна іншай гісторыі дарослы мог спытаць: «Хіба гэта не смешна? Калі гэты самаўпэўнены стары багацей наступіў на лупіны нім-німа і ўпаў у адчынены люк, хіба ты не адчуў, што зараз лопнеш ад смеху?»

Нім-нім – гэтак называліся на Бубу бананы.

Хлопчыка, якога прывялі ў карцінную галерэю, маглі спытаць, усміхаецца жанчына на карціне ці не. Можа яна аб нечым сумуе, хоць і ўсміхаецца? Як ты думаеш, яна замужам? Як табе здаецца, у яе ёсць дзеці? Як па-твойму, яна добрая да іх? Як ты мяркуеш, куды яна пойдзе далей? Як ты лічыш, яна хоча туды ісці?

Калі на карціне была ваза з садавінай, дарослы мог сказаць: «Глядзі, якія апетытныя нім-нім! Ам-ням-ням!»

Вось як на Бубу выхоўваюць дзяцей. Прыклады не мае – Кілгора Траута.

Гэтак быў збудаваны мозг у большасці жыхароў Бубу. У іх мозгу ўтвараліся спецыяльныя зоны, мікрасхемы, калі заўгодна, якія на Зямлі называліся зонамі ўяўлення. І менавіта таму, што ў пераважнай большыні жыхароў Бубу былі зоны ўяўлення, усе любілі дзвюх сясцёр Б-36, пісьменніцу і мастачку. Але гэтак быў збудаваны мозг не ва ўсіх.

У дрэннай сястры таксама мелася зона ўяўлення – а як жа! – але яна была незвычайная. Дзяўчына не жадала чытаць кнігі і хадзіць у галерэі. Яна праводзіла кожную вольную хвіліну ў садзе псіхіятрычнага шпіталя, які месціўся па суседству. Лічылася, што псіхі не могуць ёй нашкодзіць, і таму яе нават ухвалялі за тое, што яна ходзіць да іх у госці – што гэта, як не спачуванне? А шызікі навучылі яе тэрмадынаміцы, матэматыцы і шмат чаму іншаму яшчэ.

Калі дрэнная сястра вырасла, яна разам з шызікамі прыдумала тэлекамеры, перадатчыкі і прыёмнікі. Потым яна ўзяла грошы ў сваёй вельмі багатай матулечкі, каб вытвараць і прадаваць гэтыя пякельныя машыны. Яны зрабілі ўяўленне непатрэбным і адразу сталі надта папулярныя, бо перадачы былі вельмі займальныя, а думаць не было патрэбы.

Яна зарабіла кучу грошаў, але болей за ўсё яе абрадавала тое, што яе сёстры сталі адчуваць сябе як апошняе дзярмо. Моладзь болей не бачыла сэнсу развіваць у сябе зоны ўяўлення, бо яны ведалі, што дастаткова націснуць на кнопку – і яны ўбачаць усё, што душы заўгодна. Моладзь глядзела на друкаваную старонку ці на карціну і дзівілася, як «старыя» маглі «кайфаваць» ад гэтых простых і мёртвых рэчаў.

Дрэнную сястру звалі Нім-Нім. Калі яе бацькі давалі ёй імя, яны не маглі ведаць, які гнілы выйдзе з яе нім-нім. Вынаходства тэлебачання – гэта кветачкі ў параўнанні з тым, што яна зрабіла неўзабаве. Яе ўсё роўна ніхто не палюбіў, бо яна засталася ранейшай занудай, тады яна прыдумала аўтамабіль, камп'ютэр, калючы дрот, супрацьпяхотную міну, кулямёт, агнямёт і гэтак далей. Вось да якой ступені яна была мярзотнае стварэнне.

Узрасталі новыя пакаленні. Яны ўжо не ведалі, што такое ўяўленне, і таму не маглі ўявіць сабе жыццё без усяго таго паскудства, якім іх частавала Нім-Нім. Але самае дрэннае, што яны болей не маглі чытаць цікавыя кранальныя гісторыі на тварах адзін у аднаго. А для іх продкаў гэта было не складаней, чым прыдумляць гісторыі, пазіраючы на карціны ў галерэі.

Так жыхары Бубу, піша Кілгор Траут, «сталі самымі бязлітаснымі стварэннямі ў мясцовым скапленні галактык».

**Пераклад Алесі БЫЦЬКОЎСКАЙ**



**Хірасіма пасля ядзернага бамбавання**

 



# У Верхнім горадзе пануюць баксафілы






Фота У. Шляпак




***«А возьмите Верхний город в Минске. Отремонтировали его еще при Вячеславе Францевиче Кебиче, создали уютное место. Горисполком – собственник. Но насоздавали там какие-то структурки, в некоторых активно участвуют депутаты, сдают площади в аренду. И только на одном здании получали по 30–40 тысяч долларов в год. Хорошо живется некоторым защитникам народа. Поэтому если мэр хочет работать дальше, то должен немедленно вернуть в собственность эти предприятия и сдать в аренду тем, кто там живет, а не посредникам».***

***(Са штогадовага паслання прэзідэнта Рэспублікі Беларусь парламенту. 16 красавіка 2003 г.)***











Натуральна, усцешна, што ў рэшце рэшт беларускія ўлады звярнулі ўвагу на той урбаністычны вандалізм і бізнесовы гармідар, што чыніцца ў гістарычным цэнтры сталіцы. Але ж гэта праблема не аднаго года. Што дагэтуль засціла вочы? Прычына ў тым, што руплівае стаўленне да нацыянальных каштоўнасцяў так і не сталася адным з прыярытэтаў унутранай беларускай палітыкі.

Зрэшты, лепш позна, чымсьці ніколі. А што да канкрэтнага выпадку з гістарычным цэнтрам Мінска, то, ведаючы звычку беларускага прэзідэнта асабіста займацца важнымі справамі, хочацца верыць, што ён працягне трымаць на кантролі сітуацыю ў Верхнім горадзе. Бо гэта зусім не драбяза, а вельмі істотная справа. Можна сказаць, ідэалагічна фундаментальная. Хочацца верыць, што прэзідэнт сапраўды разбярэцца з праблемай Верхняга гораду, што ягоная поўная справядлівага абурэння заява на гэты конт – не звычайная спроба звесці рахункі з нейкімі нелаяльна настроенымі да яго дэпутатамі.

Ад вырашэння праблемы эксплуатацыі плошчаў Верхняга гораду Аляксандр Лукашэнка паставіў у залежнасць кар'еру старшыні Мінгарвыканкама. Але адказнасць мусяць падзяліць і іншыя сталічныя чыноўнікі, у першую чаргу з Камітэта архітэктуры, з Дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі. Бо замест таго, каб зрабіць усё магчымае для аднаўлення аутэнтыкі Верхняга гораду, для стварэння там самых розных музеяў, яго, наадварот, аддалі на зняверчанне і ўзбагачэнне пэўных асобаў. А ўвесь народ прайграе. Уся краіна прайграе. Хаця, здавалася б, Беларусь стала незалежнай, дык давайце выяўляйцеся сапраўднымі гаспадарамі. Не – з Верхнім горадам абыходзяцца хужэй, чым і за савецкім часам, адно што пагаршэнні атрымалі меркантыльную афарбоўку. Так паводзяць сябе толькі прыхадні ды баксафілы. Але хто дапусціў іх да культурнай спадчыны? Безумоўна, гэта, зважаючы на іхныя патрэбы, Верхні горад Мінска цалкам пазбавілі жыхароў. Там жывуць офісы, казіно, фірмы, удзень працуюць установы. Там зроблены паркінг, закрыты звонку дамамі, там вынішчаны прытульнасць і атмасфера, якія павінны быць у гістарычным цэнтры. Па сутнасці дзеля гэтага і праводзіцца рэстаўрацыя. Цяпер гэта мёртвы горад для нейкіх фірмаў і іхнага транспарту. Можна толькі дзівіцца, як дзялкам, што прычапіліся да культуры, так доўга ўдавалася пускаць пыл у вочы кіраўніцтву краіны.

Хацелася б спадзявацца, што Верхні горад Мінска ўсё ж будзе служыць мінчанам, а не стане для іх закрытай зонай, прыватызаванай багаценькімі аматарамі старадаўніх фасадаў.

 

# Сімвалы самакіравання


Віленская ратуша ў XVIII ст. Мал. М.Янушэвіча

**Алег ТРУСАЎ**
**кандыдат гістарычных навук**

Магдэбургскае, ці майдэборгскае, як яго часцей называлі нашы продкі, права ўзнікла ва ўсходне-нямецкім горадзе Магдэбургу ў XIII ст. Яно ўяўляла звод правоў і прывілеяў жыхароў еўрапейскага феадальнага горада. Юрыдычныя нормы, замацаваныя ў магдэбургскім праве, спрыялі развіццю эканамічнай і грамадска-палітычнай дзейнасці гараджан, вызначалі іх стан і маёмасныя правы. Паступова магдэбургскае права распаўсюдзілася на розныя гарады Паўночнай Еўропы і Прыбалтыкі і прыйшло на землі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага.

З сённяшніх беларускіх гарадоў магдэбургскае права атрымала першым старажытнае Бярэсце. Гэта было ў 1390 г. За тры гады да гэтай падзеі Ягайла надаў магдэбургскае права сталіцы ВКЛ – Вільні.

У XVI – першай палове XVII ст. усе вялікія, сярэднія і большая частка дробных беларускіх гарадоў мелі магдэбургскае права. Горад, які атрымліваў магдэбургскае права, меў магчымасць стварыць выбарны орган самакіравання – магістрат. У склад магістрата ўваходзілі заможныя гандляры і рамеснікі. Магістрат кіраваў усім жыццём у горадзе і размяшчаўся звычайна ў спецыяльным будынку – ратушы.

Ратуша ў перакладзе з нямецкага азначае "дом сходаў". Першыя такія «дамы» з'явіліся ў Заходняй Еўропе ў XII ст. і з часам набывалі ўсё больш манументальныя формы.

Будынак ратушы, звычайна прамавугольнай формы, будаваўся ў цэнтры горада, пасярэдзіне плошчы, дзе адбываліся кірмашы. Ратушу амаль заўсёды ўпрыгожвала вежа, якая выконвала ролю назіральнай вышкі (у выпадку пажару альбо варожага нападу). Галоўным памяшканнем ратушы была зала пасяджэнняў магістрата на другім паверсе будынка. Вакол ратушы мясціліся гандлёвыя рады і крамы.

К канцу XVI ст. усе вялікія беларускія гарады мелі ратушы, у асноўным драўляныя. У час шматлікіх пажараў яны часта гарэлі, і таму там, дзе магістраты мелі значныя сродкі, узводзіліся мураваныя будынкі.

Цікавы шлях розных пераўвасабленняў і перабудоў прайшла **віленская ратуша**. Першая вядомая яе выява адносіцца да 1545 г., яна аздабляе цэнтральную частку горада на гарадскім плане Вільні, зробленым Ф.Хогенбергам. На малюнку мы бачым невялікі выцягнуты ў плане прамавугольны будынак з невялікім купалам над цэнтральнай часткай і вострай спічастай вежай. Зусім іншы выгляд мае віленская ратуша на малюнках Т.Макоўскага, зробленых у самым пачатку XVII ст. Будынак ратушы нагадвае гатычны касцёл з высокім трохкутным франтонам і высокай вежай, пасярэдзіне якой зроблены балкон, які ідзе па ўсім перыметры вежы. Найбольшую цікавасць выклікае малюнак М.Янушэвіча, зроблены ім у 1835 г. з арыгінальнага малюнка другой паловы XVIII ст. На гэтым малюнку мы бачым пасярэдзіне ратушнай плошчы цэлы комплекс featureнапавярховых камяніц, якія з усіх бакоў абступаюць двухпавярховы будынак ратушы. Вокны другога паверха маюць паўцыркульны абрыс, дах пакрыты чырвонай дахоўкай, а на ратушнай вежы з'явіўся вялікі гадзіннік. Дарэчы, абрысы віленскай ратушы ў XVIII ст. вельмі нагадваюць стромкі гмах ратушы ў Віцебску. У канцы XVIII ст. будынак віленскай ратушы быў цалкам перабудаваны ў стылі класіцызму. Знікла вежа, а перад двухпавярховым будынкам зрабілі вялікі порцік, які абапіраўся на круглыя калоны.

Адна з самых старажытных мураваных ратуш на Беларусі пабудавана ў канцы XVI ст. **у Нясвіжы**. Яна некалькі разоў перабудоўвалася і захавалася да нашых часоў без верхніх паверхаў вежы, якія нядаўна былі адноўлены.

Значныя памеры, кампазіцыя плана надаюць нясвіжскай ратушы манументальны выгляд. Яе абрысы нагадваюць рэнесансныя прапорцыі замкаў і кальвінскіх збораў. Гандлёвыя рады, што прымыкаюць да ратушы з трох бакоў, складаюць разам з асноўным будынкам архітэктурны ансамбль, які ўпрыгожвае гарадскую плошчу.

У 1591 г. пачынаецца будаўніцтва мураванай ратушы **ў Мінску**. Яна размяшчалася ў цэнтры Высокага рынку (цяпер плошча Свабоды). Гэтая мясціна з XVI ст. да 30-х гадоў нашага стагоддзя з'яўлялася галоўным гандлёвым, адміністрацыйным і культурным цэнтрам нашай сталіцы. Падарожнікі, якія наведвалі Мінск у XVII ст., пісалі, што ратуша з'яўляецца адным з самых славутых будынкаў на плошчы. У канцы XVIII ст. мінскі архітэктар Ф.Крамер перабудоўвае ратушу і надае ёй рысы класіцызму.

Паводле праектных чарцяжоў, гэта быў прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак, пасярэдзіне якога ўзвышалася вежа са шпілем. Тарцы галоўнага фасада і порцік перад уваходам былі ўпрыгожаны калонамі іанічнага ордэру.

Памяшканні ратушы ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. займалі гарадскі суд, магістрат і гаўптвахта. У 30-х гадах XIX ст. тут знаходзілася музычная школа, а з 1844 г. і гарадскі тэатр. Але ў 60-я гады XIX ст. будынак ратушы быў ушчэнт разбураны. Падчас раскопак 1978 і 1988 гг. археолагі выявілі падмуркі ратушы і фрагменты цаглянай муроўкі сцен, знайшлі рэшткі цаглянай падлогі і зялёныя паліваныя кафлі ад печаў. Цяпер рэстаўратары распрацавалі праект поўнага аднаўлення гэтага цікавага помніка архітэктуры.

Адна з самых велічных ратуш на Беларусі – **магілёўская** – была ўзведзена ў другой палове XVII ст. на Гандлёвай плошчы (зараз Савецкая плошча). Гэта мураваны двухпавярховы будынак з высокай васьміграннай вежай пасярод галоўнага фасада. Пасля пабудовы ратушы Гандлёвая плошча стала галоўным адміністрацыйным і грамадскім цэнтрам Магілёва.

Кіраваў будаўніцтвам майстар Феска. Ён збудаваў толькі прамавугольны ў плане (30х15м) будынак. Для пабудовы ратушнай вежы магілёўцы запрасілі іншаземца Крузберга. Але вежа, узведзеная ім на вышыню 40 локцяў (каля 26 м), нечакана завалілася. Праз некалькі гадоў, разабраўшы папярэдне рэшткі няўдалай канструкцыі Крузберга, складаную працу па ўзвядзенні вежы выканаў беларускі дойлід Ігнат са сваёй арцеллю.

На першым паверсе ратушы знаходзіліся сені, вялікая «ізба» – памяшканне, дзе адбываўся суд пад кіраўніцтвам войта, канцылярыя, дзе сядзелі пісары, і пакой (ратушная святліца), у якім захоўваліся бягучыя справы магістрата. Другі паверх займалі таксама сені, судовая «ізба» – месца магістрацкіх судоў, вялікая зала – месца пасяджэнняў магістрата і некалькі падсобных памяшканняў.

У цокальным, паўпадвальным паверсе, размяшчаліся скарбніца, склады і турма. Усе памяшканні ацяпляліся печамі, аздобленымі тэракотавай і паліванай кафляй зялёнага колеру. Першы паверх, верагодна, быў перакрыты магутнымі скляпеннямі. Лесвіцы ўпрыгожаны разнымі драўлянымі балясінамі.

Вокны ратушы мелі прыгожыя алавяныя рамы – ваканіцы, у якія ўстаўляліся круглыя шыбы. Завешваліся вокны фіранкамі з зялёнага гарусу. Парадныя памяшканні ўпрыгожвалі абразы, партрэты каралёў і харугвы цэхаў. Падлога была з адмысловай цэглы, а сцены заўсёды бяліліся.

Звонку ратуша была абтынкавана, мела два ганкі – нізкі і высокі (парадны). На высокі ганак вялі ўсходы з разнымі балясінамі. Ратушную вежу аздабляў балкон з металічнымі кратамі і, магчыма, вялікі гадзіннік.

Ратуша пад стромкім дахам, накрытым плоскай чырвонай дахоўкай, велічна ўзвышалася сярод нізкіх драўляных і мураваных крам, ад якіх яе аддзяляў драўляны плот з мураванай брамай, пакрытай гонтам. Яшчэ здалёк падарожнік, які ўваходзіў у горад праз Алейную браму, бачыў пазалочаныя веранікі (флюгеры) на франтоне ратушы, на дахах ганкаў і на вежавым шпілі.

У 1773 г. будынак ратушы капітальна перабудавалі. Фасады, аздобленыя шырокімі гарызантальнымі паясамі, якія падзялялі паверхі, рустоўка на ніжнім і дэкаратыўныя ліштвы над вокнамі другога паверха зрабілі яе падобнай да грамадскіх будынкаў губернатара і віцэ-губернатара, якія былі пабудаваны ў стылі класіцызму побач з ратушай на Гандлёвай плошчы ў канцы XVIII ст. Пяціпавярховая вежа стала асноўнай вертыкальнай дамінантай горада разам са званіцай Богаяўленскага сабора.

У такім выглядзе ратуша захавалася да апошняй вайны, у час якой моцна пацярпела, але асноўны корпус і вежа ацалелі. На жаль, у 1957 г. гэты каштоўны помнік, які можна было аднавіць, быў разбураны разам з рэстаўрацыйнымі рыштаваннямі. Архіўны і археалагічны матэрыял дазволіў рэстаўратарам стварыць праект адбудовы магілёўскай ратушы. У адноўленым будынку мяркуецца размясціць Палац шлюбаў.

У XVIII ст. мураваныя ратушы будуюцца **ў Горадні, Віцебску, Чачэрску, Шклове**, невялікія па памерах ратушы ўзводзяцца ў Слоніме і Шарашове. Яны не маюць вежаў (акрамя віцебскай і шклоўскай), але таксама разам з гандлёвымі будынкамі ствараюць адзіны ансамбль.


Чачэрская ратуша


Мінск, плошча Свабоды. Аднаўляецца мінская ратуша

Фота У. Шлапак

# Біблейскія лідэры

**Калі чытаеш Стары Запавет – намагайся думаць, бо Госпад дапамае кожнаму, хто адшуквае ісціну**

Падказкі для хрысціянскага лідэра знаходзяцца ўжо на першых старонках Бібліі. З гісторыі Адама, Ноя, аповесці пра Вавілонскую вежу выплывае актуальная да сёньняшняга дня навука, якая датычыцца добрага кіравання.

Апісанне стварэння свету нагадвае нам вядомы ранейшы вавілонскі тэкст Enuma Elish, апісанне патопу амаль скапіравана з нашмат старэйшага тэксту, які апавядае пра гісторыю Гільгамеша, якога адзін з багоў вырататаваў ад патопу, выкліканага іншым богам.

У міфах Кнігі Быцця мы не знойдзем навуковага тлумачэння таго, як паўстаў свет. У той час як яны нам вельмі шмат скажуць пра чалавека, яго натуру, пра яго ролю ў свеце, пра яго суадносіны з Богам. Многаму можа з іх навучыцца і кожны хрысціянскі лідэр.



**Войцех Жмудзінскі – кіраўнік Адукацыйнага Цэнтра лідэраў і выхавацеляў імя Педро Арупе ў Гдыні. Цэнтр – недзяржаўная ўстанова, якая займаецца падтрымкай адукацыі шляхам розных форм прафесійнага ўдасканальвання настаўнікаў у галіне методыкі выхаваўчай работы і выкладання агульнаадукацыйных прадметаў. Цэнтр праводзіць сваю працу ў розных краінах.**
**Войцех Жмудзінскі – аўтар некалькіх кніг. Урыўкі з яго кнігі «Біблейскія лідэры» мы прапануем увазе чытача.**

## Ной – лідэр-навігатар

У першых раздзелах Кнігі Быцця ёсць аповесць пра Ноя. Ён будуе каўчэг, каб перачакаць катаклізм – патоп. Ён клапоціцца таксама пра іншыя жывыя істоты і забірае іх з сабой.

Ной – гэта сімвал лідэра-навігатара. Ён здолеў прачытаць знакі, праз якія Бог паклікаў яго да працы, міма таго, што яна ў вачах сучасных Ною людзей здаецца дзівацтвам. Навошта будаваць лодку, і да таго ж такую вялікую, калі свеціць сонца, а мора так далёка?

Ною, як кожнаму добраму навігатару, трэба быць прадбачлівай асобай. Калі ён выплыве ў адкрытае мора і не возьме з сабой дастатковай колькасці ежы і пітной вады, то экспедыцыя можа скончыцца трагічна. Памятаю, калі мы з сябрамі былі на Мальце, то вырашылі адправіцца на маленькі востраў, дзе быў казачны пляж з назвай Блакітная Лагуна. Калі мы селі ў лодку, праваднік запытаўся ў нас, ці маем мы з сабой ваду. Але ніхто з нас не падумаў, што там няма ніякай крамы і, не ўзяўшы з сабой вады, мы сур'езна рызыкуем здароўем. Вакол была вада, але салёная. Тэмпература перавышала 40 градусаў па Цэльсію, а зварот на Мальту быў магчымы толькі ўвечары. Мы павінны былі вярнуцца ў горад і запасціся вадой. Мы не прадбачылі найпрасцейшых цяжкасцяў. Навігатар павінен быць прадбачлівы, павінен ведаць, што будзе неабходным падчас рэйсу і як доўга ён будзе працягвацца.

Лідэр-навігатар павінен ведаць, куды ён мае намер плыць, калі яшчэ выходзіць з порту. Калі з самага пачатку ён не мае акрэсленай мэты, то будзе блукаць па моры, падпарадкаваны хвалям і ветру. Ведаючы мэту свайго падарожжа, ён мусіць быць верны яму нават у найдрабнейшых справах. Тыя, хто калі-небудзь плаваў пад ветразем, ведаюць, што найлягчэйшы рух можа змяніць курс яхты. Усё, што робіць той, хто кіруе яхтай, павінна быць падпарадкавана курсу, які ён выбраў спачатку. У іншым выпадку ён рызыкуе ніколі не даплысці да вызначанага месца.

Капітан судна мусіць мець смеласць адысці ад берага, які дагэтуль даваў яму пачуццё бяспекі, памагаў арыентавацца, у якім месцы знаходзіцца судна. Калі суша знікне з вачэй, навігатар пачынае кіраваць пры дапамозе знакаў, зразумелых толькі яму. Звычайнаму, члену экіпажа няпроста арыентавацца на моры.

Страх перад адплыццём ад берага суправаджае многіх лідэраў. Некаторыя з іх ніколі не выплываюць у адкрытае мора. Сударажна трымаюцца за ўстарэлыя формулы і баяцца камунебудзь не спадабацца. Група, якой яны кіруюць, затрымоўваецца ў росце і становіцца бяспечным прытулкам для людзей, якія не ведаюць, чаго хочуць ад жыцця, а малітоўнае спатканне ўспрымаюць як уцёкі ад праблемаў штодзённага жыцця. Такая супольнасць, калі не рызыкне выплыць у мора, не стане прымаць складаных рашэнняў, якія ставіць перад ёй свет і, раней ці пазней, сядзе на мель.

Асоба, якая вядзе супольнасць, павінна клапаціцца пра тое, каб усё, што з ёй адбываецца, было звязана з мэтай, да якой імкнецца супольнасць. Найдрабнейшыя дзеянні сяброў супольнасці, найменш важныя рашэнні, павінны быць ацэнены: ці тое, што мы робім, прывядзе нас да мэты, якой мы жадаем дасягнуць як супольнасць. Калі не – то будзем блукаць па акіяне, не бачачы сэнсу ў тым, што робім.

## Канструктары Вавілонскай вежы

Вавілонская вежа была будаваная некалькі тысяч гадоў перад нараджэннем Хрыста і часта атаясамліваецца даследчыкамі біблейскай літаратуры з вавілонскім храмам. Баб-эль значыць «брама да Бога». Будаўнікам яе пакруцілася ў галовах, яны хацелі ўпрэгчы Бога ў служэнне асабістым інтарэсам. Жаданне прысвоіць сабе моц Найвышэйшага ўтварыла з іх людзей сляпых і глухіх да праўды.

У міфе пра Вавілонскую вежу мова не пра тую вежу, якую шукаюць археолагі, але пра тую, якую мы самі будуем у нашым жыцці, захапляючыся рэчамі і ператвараючы чалавека ў рэч.

Вельмі цікава прадстаўляе гэту гісторыю рабін Эліэзар. Ён распавядае, што некалі людзі распачалі рэалізацыю вельмі смелага праекта, пачалі будаваць магутную вежу, будынак, які сягаў бы неба. На пэўным этапе будоўлі вежа была ўжо такой высокай, што, каб падняць камень на яе вяршыню, рабочаму трэба было ісці цэлы год. Людзі так цяжка працавалі, так былі занятыя рэалізацыяй гэтага праекту, што ніхто не аплакваў людзей, якія часам падалі з вяршыні гэтай вялікай будоўлі. Большай трагедыяй быў факт, што чарговы камень не трапляў на сваё месца. У выніку людзі, захопленыя пераноскай камянёў, «забыліся пра язык у роце». Гэта зусім не гаворыць пра тое, што Бог змяшаў іхнія мовы, але што яны самі, занятыя працай, не мелі часу, каб размаўляць паміж сабой. Працавалі адзін побач з другім, але не мелі ані хвіліны для сябе. Былі незнаёмыя, і нічога, апроч справы, іх не аб'ядноўвала і не цікавіла. Суадносіны паміж людзьмі перасталі існаваць. Сон пра вялікую справу стаўся мацнейшы, чым жаданне будаваць сувязі паміж людзьмі. Гэта idea fix сталася сэнсам іх жыцця. Каб толькі вышэй, каб толькі хутчэй, каб убачыць вынік сваёй працы.


Вавілонская вежа: Гравюра Густава Дарэ

Як шмат такіх вавілонскіх вежаў мы будуем сёння. Як часта праект, інтэрас, справа людскіх рук для нас важнейшыя, чым іншы чалавек, той, з якім працуем, з якім жывём побач або рэалізуем нейкую задуму. Тая мэта, якую мы павінны ставіць нашай малітоўнай групе, інстытуцыі, школе, мэта нашага жыцця – гэта будаванне ўзаемаадносін з Богам і з іншым чалавекам. Аповесць пра Вавілонскую вежу перасцерагае нас, асабліва ж кожнага лідэра, перад стаўленнем праекту над асобай, з якой мы гэты праект рэалізуем. Кожная група людзей, якой кіруе хрысціянскі лідэр, не можа страціць з вачэй найважнейшай мэты, якая заключаецца ў будаванні сувязяў дружбы і любові. Лідэр – гэта той, хто вядзе да Хрыста, які знаходзіцца ў іншым чалавеку, а не той, хто ўзносіць цэглы на шпіль найвышэйшага будынку на свеце і думае, што там, у хмарах, далёка ад людзей, напаткае Бога.

## Сара – жонка Аўраама

Біблія распавядае, што шмат гадоў таму, амаль дзве тысячы перад нараджэннем Ісуса, пэўны чалавек па імені Абрам разам са сваёй жонкай Сарай, спакаваў рэчы і адправіўся на пошукі зямлі, якую ім паабяцаў нехта, хто прадставіўся як іхні Бог.

Гэтая пара ўзаемна закаханых сямейнікаў распачала доўгае блуканне. Падарожжа працягвалася амаль усё іхняе жыццё. Многа сказана і напісана пра гісторыю Абрама, якому Бог пасля некалькі зменіў імя і назваў яго Аўраамам. Многа выказана словаў пра яго гераічную веру. Але так мала сказана пра яго гераічную жонку Сару. Кніга Быцця падае яе нам як няплодную жанчыну сталага веку. Але ж той самы голас, які падаваўся за Бога Аўраама, абяцаў яму, што той будзе бацькам вялікага народу, і што Сара народзіць яму сына (Быц. 17,19). Тым часам здавалася, што рэчаіснасць усяму пярэчыць. Сара не магла мець дзяцей. У той час, калі вера запавядала светлую будучыню, рэчаіснасць станоўча ёй пярэчыла. Сара з любоўю пекі перадобрання справы.

Бог звярнуўся да Аўраама праз сваіх пасланцоў. І сказаў адзін з іх: я зноў буду ў цябе ў гэты самы час, і будзе сын у Сары, жонкі тваёй. А Сара слухала каля ўваходу ў намёт (Быц. 18,10). Сара голасна засмяялася ў адказ на гэтыя словы. Гэта было занадта цудоўным, каб магло стацца праўдай. І толькі, калі нарадзіла сына, паверыла, што Бог можа здзейсніць тое, што па-людску зусім немагчыма. Але паглядзела на свайго мужа і бачыла ў яго вачах сапраўдную надзею, падмацаваную абяцаннем Бога. Ведала, што муж верыў Яму бязмежна. Яна пакутавала ад думкі, што яе муж можа расчараваацца ў сваім Богу. Склала тады геніяльны план. І сказала Сара Абраму: вось Госпад замкнуў чэрава маё, каб мне не нараджаць; увайдзі ж да служанкі маёй: можа я буду мець дзяцей ад яе. Абрам паслухаўся Сарыных словаў. (Быц. 16,2). Для тагачаснай ментальнасці прапанова Сары не была дзіўнай або немаральнай. Сёння гэта, натуральна, было бы немагчымым. Уявіце сабе сучасную жанчыну, якая прапануе мужу такое выйсце.

Аўраам наблізіўся да служанкі Агары, і тая нарадзіла яму сына, якому надалі імя Ізмаіл, што азначае «Бог пачуў» (Быц. 16,15). Аўраам і Сара былі перакананыя, што праз Ізмаіла Бог рэалізуе сваё абяцанне. Але геніяльны план Сары аказаўся адзіна яе планам. Божы план быў іншы. Гэта яна павінна была нарадзіць сына Аўрааму (Быц. 18, 9–10). Ці ж каханне Сары да Аўраама не прывяло да таго, што Сара перадобрыла справу? Але ці ж не хацела, як найлепш? Звярніце ўвагу, што тыя, каму вельмі на нечым залежыць, заўсёды схільныя да небяскуль гэта не адбылося, пакуль не ўбачыла на ўласныя вочы сына Ісаака, яшчэ да канца не верыла, што ён народзіцца. Мела сумненні, ці зможа ў свае старэчыя гады пусціць яго на свет.

Многія, так як і Сара, не вераць, што Бог можа ўчыняць праз нас вялікія рэчы. Смяюцца з сябе. Смяюцца з іншых. Стараюцца скласці ўласны план; можа не такі прыгожы, але, як кажуць, «больш рэалістычны», прадуманы, з падрабязна падлічанымі на поспех. Так, вельмі шмат людзей не вераць, што праз іх і дзякуючы ім можа нарадзіцца нешта, што мае вялікую каштоўнасць.

Можа, дзякуючы табе народзіцца нешта, што пераменіць некалькі зраненых чалавечых сэрцаў у аазіс любові? А можа для цябе дастаткова, што нехта іншы стварае вялікія рэчы? Так як Сара задаволілася патомствам, народжаным рабыняй, ці і ты таксама маеш намер паўтараць увесь час, што цуды адбываюцца толькі ў жыцці іншых людзей? Ці верыш, што і ў тваім жыцці можа здарыцца нешта нязвыклае? Так як здарылася ў жыцці Сары. Павер. Павер і зрабі ўсё, што можаш, а Бог зробіць астатняе.

**Пераклад з польскай Бернарды ІВАНОВАЙ**

# Культурныя страты Ірака

Нават нягледзячы на заявы ЦРУ, што яно мае ДНК Садама, амерыканскія судовыя эксперты не сталі ўласнаручна рыцца ў руінах ціхага багдадскага дома і рэстарана, дзе Садам і яго сыны былі мішэнню амерыканцаў (верная прыкмета, што яны і не разлічвалі знайсці там якія-небудзь сляды Садама).

А цяпер па разведках папаўзлі чуткі, што Садам зрабіў пластычную аперацыю і ўцёк.

Гэты чалавек – вядомы аматар касметычных працэдураў. У 1998 годзе ён запрасіў праз прадстаўнікоў ААН абсталяванне для ліпасакцыі, адбельвання зубоў і перасадкі валасоў як «цалкам неабходныя гуманітарныя медыцынскія пастаўкі». Што калі Садам ніколі і не збіраўся абараняць Багдад? Што калі ён задумаў канчатак, як у фільме «Пал цела», дзе ў полымі згарае двайнік, а галоўнаму персанажу ўдаецца ўслізгнуць на абасоблены трапічны пляж?

Ці стаў тыран пылам ад удару «маці ўсіх бомбаў», ці змяніў твар, яго болей няма. І мы цяпер валодаем яго краінай, набыўшы яе за 79 мільярдаў даляраў. Амерыка адкалолася ад Брытанскай імперыі, а цяпер стварае сваю імперыю ў гэткім жа стылі.

Відавочна, нам трэба павучыцца ў брытанцаў. Калі яны вывозілі скарбы з заваяваных імі краінаў ў Брытанскі музей, яны, найменш, захоўвалі іх для наступных пакаленняў, каб тыя маглі паспрачацца за правы валодання.

Кааліцыйныя сілы, пакуль сотні іракцаў рабавалі каштоўныя рэліквіі і мастацкія каштоўнасці, назапашаныя за 7 тысяч гадоў існавання гэтай цывілізацыі, ахоўвалі іракскае Міністэрства нафты. Міністр абароны не звяртаў увагі на неаднаразовыя просьбы вучоных і археолагаў аб тым, каб салдаты ахоўвалі іракскую гісторыю ў музеях гэтак жа, як яны ахоўваюць іракскае багацце ў нафтавых свідравінах.



Міністр абароны абсалютна ясна выказаўся напярэдадні, што ён не надта занепакоены лёсам некалькіх старых гаршкоў на фоне ўсёй цяперашняй сітуацыі ў цэлым.

Нават калі перад вачыма складальнікаў ваенных планаў ўжо быў жахлівы прыклад разрабавання музея, яны дазволілі далейшае знішчэнне бясцэннай іракскай інтэлектуальнай гісторыі, калі марадзёры і падпальнікі рабавалі і руйнавалі Нацыянальную бібліятэку.

Калі мы не планавалі вывезці з Ірака мастацкія каштоўнасці, што яму належаць, гэта не азначае, што мы павінны былі выказаць абсалютную абыякавасць да іх лёсу.

Калі мы не жадаем быць імперыяй, гэта не азначае, што мы павінны быць цалкам пазбаўлены маральнага гонару.

Калі лідэры, што развязалі гэту вайну, з'яўляюцца нафтавікамі, гэта не азначае, што яны павінны весці яе як нафтавікі.

**The New York Times**

## Кошт мовы

***Новы Еўрапейскі Саюз будзе размаўляць на 20-і мовах, гэта будзе каштаваць мільярд еўра***

Пашырэнне ЕС – гэта яшчэ і лінгвістычная праблема: еўрапейскае насельніцтва павялічыцца на 20%, колькасць моваў амаль падвоіцца. Сёння ў ЕС гавораць на 11 афіцыйных мовах, з прыходам новых краінаў у ЕС будзе 20 моваў: польская, венгерская, чэшская, эстонская, латвійская, літоўская, славенская, славацкая, мальтыйская мовы стануць афіцыйнымі мовамі побач з англійскай, французскай, італьянскай, нямецкай, іспанскай, партугальскай, грэчаскай, нідэрландскай, дацкай, фінскай, шведскай.

Моваў магло быць і болей, але вырашылі, што Кіпр (перамовы пра аб'яднанне грэчаскай і турэцкай абшчынаў вострава пакуль не аднавіліся) будзе гаварыць на грэчаскай, якая ўжо ёсць афіцыйнай моваю ЕС. З уступленнем у ЕС у 2007 годзе Румыніі і Балгарыі афіцыйных моваў будзе 22.

Колькі будзе каштаваць еўрапейскі Вавілон? Толькі на Камісію ЕС працуюць каля 2.000 перакладчыкаў, і яе бюро перакладаў перакладае на год да 1,3 мільёна старонак тэкстаў. Разам з тым кіраўніцтва ЕС прымае рашэнні на трох мовах (англійскай, французскай і нямецкай), у офісах размаўляюць на англійскай і французскай. Такім чынам, Камісія можа даць сваіх перакладчыкаў Радзе, у якой маецца свая служба перакладчыкаў. Кожны год перакладчыкі працуюць на 11 тысячах пасяджэнняў Камісіі, Рады, Эканамічнага і сацыяльнага камітэта і Камітэта па справах рэгіёнаў.

У выніку праца на 11 афіцыйных мовах для ўсяго Еўрапейскага Саюза каштуе на год 700 мільёнаў еўра, амаль 2 еўра на кожнага грамадзяніна. Гэта складае крыху меней 1% бюджэту ЕС. У выніку пашырэння ЕС для кожнай новай мовы спатрэбіцца яшчэ 40 вусных і 110 пісьмовых перакладчыкаў. Гэта прывядзе да павялічэння выдаткаў да мільярда еўра.

Па словах прадстаўніка Камісіі ЕС Эрыка Мамера, шматмоўнасць ёсць абавязковай умовай еўрапейскага праекту. Мамер нагадвае, што ў Дамове аб стварэнні Еўрапейскай супольнасці запісана, што кожны грамадзянін мае правы звяртацца ва ўсе інстанцыі ЕС на сваёй мове і атрымаць адказ на гэтай жа мове.

Цяпер прыйдзецца вырашаць праблему захавання высокай якасці перакладаў пры зніжэнні выдаткаў. 1 ліпеня гэтага года пачнецца рэарганізацыя галоўнага ўпраўлення перакладаў з мэтай удасканалення лінгвістычных паслугаў. І не толькі. У мэтах эканоміі дакументы будуць меней аб'ёмнымі (не болей 20 старонак), будзе абмежаваны ўнутраны пераклад, будуць выкарыстоўвацца новыя тэхналогіі, напрыклад, плануецца распрацоўка шматмоўных слоўнікаў.

Ужо абвешчаны першы конкурс на новыя пасады 500 вусных і 500 пісьмовых перакладчыкаў.

**Corriere della Sera**

# «Расія – шчодрая душа»

***Вытрымкі з дакладу «Эканамічныя аспекты вайны ў Чачні»***

***«Даклад «Эканамічныя аспекты вайны ў Чачні» быў падрыхтаваны вядомымі расійскімі палітыкамі Іванам Рыбкіным і Русланам Хасбулатавым на лонданскі эканамічны форум. Але па штучных падставах яго не ўнеслі ў парадак дня. Даклад разыходзіцца, як кажуць, па руках. Прапанаваныя чытачу вытрымкі з яго апублікавала «Новая газета»***

### Ваенныя выдаткі

Структура ваенных выдаткаў вельмі складаная і заблытаная.

<...> Практычна немагчыма падлічыць у поўнай меры выдаткі на вайну. Яны ідуць па розных міністэрствах – Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных справаў (МУС), Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС), Федэральная служба бяспекі (ФСБ), Міністэрства сувязі, Федэральная памежная служба (ФПС), асобна – Галоўнае разведвальнае ўпраўленне Генштаба, асобна – Паўночна-Каўказская ваенная акруга, асобна – па артыкулах упраўленняў МУС суб'ектаў Расіі, якія накіроўваюць свае міліцэйскія аддзелы на часовае камандзіраванне ў Чачэнскую Рэспубліку.

| Гады | Выдаткі |
|---|---|
| 1999 | 13–15 млрд. руб. |
| 2000 | 35–40 млрд. руб. |
| 2001 | 20 млрд. руб. |
| 2002 | 17 млрд. руб. |
| 2003 (*план*) | 15 млрд. руб. |

Агульна:
***247 млрд. руб. (каля $8 млрд)***

<...> Калі сыходзіць з даных, на якія магчыма спаслацца, атрымоўваецца наступная карціна:

Кошт тэхнікі. Гэта вялікая тайна Генштаба, да якой, магчыма, не маюць доступу нават генералы Мінабароны, – не сакрэт, што паміж кіраўніцтвам Генштаба і Мінабароны існуюць сур'ёзныя супярэчнасці. <...> Размова ідзе пра ўплыў на фінансы, кадравую палітыку, выкарыстанне фінансавых сродкаў.

<...> Цяжка дакладна падлічыць кошт загубленай у ваенных аперацыях тэхнікі, скарыстаных снарадаў, ракет ды іншай амуніцыі. Але размова, безумоўна, па розных звестках, ідзе аб вялізнай суме – ад 5 да 8 млрд. даляраў за ўвесь перыяд, са жніўня 1999-га па сакавік 2003 года.

Пад уплывам чачэнскай вайны адбываецца хуткае ажыўленне ваенна-прамысловага комплексу. Заказы туды ідуць не толькі па лініі Мінабароны, але і ледзьве не па дзесятку іншых міністэрстваў і ведамстваў (за апошнія два гады яны перабольшылі 9 млрд. даляраў – танкі, самалёты, верталёты, дэсантная тэхніка, розныя мадыфікацыі цяжкай і ручной стралковай зброі, ваенная электроніка і г.д.)

Калі звесці разам разрозненыя і надта скупыя звесткі па затратах РФ на другую чачэнскую вайну, яны выглядаюць наступным чынам:

«Контртэрарыстычная аперацыя» ў Дагестане з 2 жніўня па верасень 1999 года – 870 млн. даляраў. Разгортванне войскаў і вайна ў Чачні з верасня 1999 года і да канца 2000 года – 10–12 млрд. даляраў, ваенныя аперацыі 2001 года – 11–13 млрд. даляраў, ваенныя аперацыі 2002 года – 10–12 млрд. даляраў, ваенна-карныя аперацыі за 3 месяцы 2003 года – каля 3 млрд. даляраў.

<...> ... названыя намі даныя – гэта, хутчэй за ўсё, ніжні ўзровень рэальных лічбавых паказчыкаў.

<...> ... у абедзвюх войнах колькасць экспедыцыйных сілаў часам перабольшвала 200.000 чалавек – адно толькі ўтрыманне гэтых войскаў каштавала агромністых сродкаў, якія традыцыйна не адлюстроўваюцца ў справаздачах ваенных ва ўсёй меры.

<...> Цікава і тое, што першая вайна ў асноўным фінансавалася за кошт заходняй дапамогі, другая вайна – за кошт высокіх цэнаў на нафту і газ.

### Эканамічная шкода

Згодна... з дакладам А.Іларыёнава, эканамічная шкода ЧР з 11 снежня 1994 года па сярэдзіну 1995 года – была ацэненая ў 6 млрд. даляраў. Аднак за наступны год ваенных дзеянняў разбуральныя наступствы вайны ў шмат разоў выраслі. І адпаведна гэтую лічбу ў 6 млрд. даляраў можна разглядаць як свайго роду «пункт адліку» (пры тым, што федэральныя ўлады заніжалі нават гэты паказчык).

<...> Падлічыць, колькі каштавалі 500 знішчаных цалкам магутных прамысловых, энергетычных ды іншых аб'ектаў, – справа няпростая. Аднак, згодна з разлікамі эканамістаў ЧР, гэта болей за 25 млрд. даляраў. Цалкам разбураная вытворчая інфраструктура – гэта 5–7 млрд. даляраў. Крадзеж і рабунак прыватнай маёмасці насельніцтва салдатамі і афіцэрамі федэральных сілаў – болей за 5 млрд даляраў. Крадзеж нафты і нафтапрадуктаў імі ж – не меней за 4–5 млрд даляраў. Экалагічная шкода рэспублікі – болей за 10 млрд даляраў. Цалкам зруйнаваны жылы масіў Грознага, у якім пражывалі 400.000 чалавек, – гэта не меней 30 млрд даляраў. Знішчэнне і пашкоджанне жылога фонду іншых гарадоў і вёсак рэспублікі – не меней чым на 5–10 млрд даляраў.

<...> Па самых заніжаных дадзеных, эканамічная шкода, нанесеная на працягу дзвюх крывапралітных войнаў у Чачні, складае не меней за 100 млрд. даляраў.

<...> Усё гэта патрабуе вялізных па маштабах аднаўленчых работ, якія фізічна Расія не ў стане здзейсніць. Тыя нешматлікія грошы, якія яна выдзяляе, фактычна напалову асядаюць ў Маскве, а напалову прызначаны для ўтрымання калабарацыйнага чынавенства ў Грозным і падтрымання бачнасці ўлады. Для ілюстрацыі прывядзём некаторыя даныя:

З лістапада 1994 года па кастрычнік 1995 года «кіраўніком урада» Чачні быў Саламбек Хаджыеў. За гэты перыяд на мэты «аднаўлення» выдаткавалі каля 2 млрд даляраў – толькі за кошт федэральнага бюджэту. Як расходваліся і куды накіроўваліся «нафтавыя грошы» (Чачня здабывала стабільна каля 3 млн тон нафты на год, і нават у самыя жорсткія баі нафтаздабыча і яе перавозка не закраналася гэтымі баямі), гэтага ніхто не ведае. Дакладней, улада не жадае гэта ведаць.

З кастрычніка 1995 года па жнівень 1996 года рэспублікай кіравалі Доку Заўгаеў, Мікалай Кошман (цяпер – старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах будаўніцтва і зноў займаецца «чачэнскімі грашыма»). За гэты перыяд з федэральнага скарбу Чачні былі выдзяены сродкі болей чым на 6 млрд даляраў. Згодна з данымі СМІ, у Грозны патрапіла трэцяя частка гэтай сумы...

З 12 чэрвеня 2000 года часовым кіраўніком адміністрацыі Чачні прызначаны Ахмад Кадыраў, куратарам у федэральным урадзе быў Віктар Хрысценка. Апошні заявіў, што на 2000 год на Чачню запланавана 7,5 млрд. рублёў (каля 230 млн. даляраў). На 2001 год было запланавана 14,9 млрд. рублёў (каля 500 млн даляраў), на 2002 год – 14,5 млрд рублёў (болей за 430 млн даляраў). На што выдаткаваны гэтыя грошы, калі не мець на ўвазе некаторую частку пенсіянераў, заработную плату паліцэйскіх і нязначную колькасць адміністратыўных службоўцаў, невядома. Паколькі жыллёвае будаўніцтва нават не пачыналася....

**NovayaGazeta**



# Прышчэпка ад нарказалежнасці

У Вялікабрытаніі і ЗША пачаліся клінічныя апрабаванні новай вакцыны, якая павінна прадухіліць фармаванне нікацінавай і какаінавай залежнасці. Калі гэтае рэчыва трапляе ў кроў, пачынаюць утварацца антыцелы, якія не даюць наркотыку дасягнуць мозгу. Адпаведна, чалавек не адчувае звычнага задаволення, і патрэба ў чарговай дозе паніжаецца. Так выглядае дзеянне новага прэпарату ў тэорыі. Практыка можа ўнесці значныя карэктывы. Патрэбны сур'ёзныя даследаванні і выпрабаванні на розных групах людзей, каб дасягнуць пажаданай мэты.

Як піша амерыканскі часопіс US News & World Report, складанасць палягае ў тым, што з этычных меркаванняў даследчыкі не могуць праверыць дзейнасць вакцыны на людзях, якія жадаюць кінуць паліць і прымаць наркотыкі: у часе выпрабаванняў новага прэпарату ўдзельнікам эксперымента прыйдзецца рэгулярна спажываць рэчывы, ад якіх яны хочуць цалкам адмовіцца. Гэта супярэчыць медыцынскай этыцы – людзям, якія лечацца ад залежнасці, нельга даваць наркотык.

Таму вакцыну будуць правяраць выключна на асобах, якія пакуль не збіраюцца адмаўляцца ад шкодных звычак. Тым болей, што ахвотнікаў атрымаць дозу какаіну ў абмен на справаздачы пра самаадчуванне і настрой не так ужо і мала.

Магчыма, з-за адсутнасці матывацыі «паддоследных» эфектыўнасць новага прэпарату будзе ніжэй, чым магла б быць, калі б рэчыва ўводзілі людзям, якія моцна жадаюць кінуць курыць і пазбавіцца ад какаінавай залежнасці.

Калі вакцына акажацца карыснай, гэта яшчэ не азначае, што нейкія «этычныя» меркаванні не перашкодзяць яе шырокаму ўжытку. Ва ўсялякім разе ёсць дастаткова людзей, незацікаўленых у памяншэнні свайго шкоднага і незаконнага бізнесу, якія лёгка арганізуюць кампанію ў абарону правоў чалавека на атручванне і да т. п. Напрыклад, каля 30 гадоў таму амерыканскі вучоны Чарльз Шустэр распрацаваў рэчыва, якое выключала «кайф» пры спажыванні гераіну. Яго з поспехам правярылі на малпах, аднак да эксперыментаў з удзелам людзей так і не дайшло, бо вучоны сам спыніў даследаванні. Ён раптам высвятліў, што «прышчэплівацъ» людзям наркотык, хоць і ў медыцынскіх мэтах, негуманна. За прамінулыя трыццаць гадоў шмат людзей маглі б жыць без небяспечнай звычкі і застацца здаровымі. Ён адмовіўся, а гандляры атрутай – не.

**Інга ТРАЦЯК**

# *Лепш сцерагчыся*

Вучоныя ў Ганконгу і Германіі знайшлі, што прычына атыповай пнеўманіі – параміксавірус. Ён выклікае свінку ў людзей, чумку ў сабак. Спецыялісты вядомага Цэнтра ў Атланце (ЗША) заявілі, што прычына новай хваробы – каронавірус. Звычайна, ён павінны ў траціне рэспіратарна-вірусных інфекцый. Некаторыя эксперты лічаць, што ў шэрагу выпадкаў абодва вірусы «кааперуюцца».

Як змагацца з нетыповай пнеўманіяй, пакуль ніхто не ведае. Таму пры падазрэнні на захворванне лепш не займацца самалячэннем, а адразу звяртацца да медыкаў, каб дапамаглі зняць цяжкія сімптомы. Варта таксама рабіць усё для ўмацавання імунітэту. У любым выпадку гэта змяншае рызыку захварэць.

Найболей тыповыя сімптомы хваробы – высокая тэмпература, сухі кашаль, цяжкае дыханне. Рэнтген паказвае змены, характэрныя для пнеўманіі. Спадарожнічаюць хваробе наступныя сімптомы – баліць галава, напружаны мышцы, страчваецца апетыт, бягунок. Інкубацыйны перыяд звычайна цягнецца пяць дзён.

Варта карыстацца тымі звычнымі хатнімі лекамі, якія традыцыйна скарыстоўваліся супраць прастуды - гарбата, мёд, маліна.

**Інга ТРАЦЯК**

# *Дзедавы лекі*

У жаху перад эпідэміяй нетыповай пнеўманіі насельніцтва Пекіна раскупіла ўсе лекавыя прэпараты, якія дапамагаюць, на іх думку, у лячэнні. Так, цалкам разабраны з аптэк «Беньланьган» – вельмі папулярны сродак ад прастуды і пнеўманіі. Дужа ўзрос попыт на зёлкі, прыгатаваныя па традыцыйных кітайскіх рэцэптах. Толькі за тыдзень у Кітаі было прададзена 450 мільёнаў упаковак такіх прэпаратаў. Некаторыя кампаніі, якія спецыялізуюцца на вытворчасці лекавых адвараў, былі вымушаны запусціць новыя лініі па прыгатаванні такой прадукцыі.

Прафесар мікрабіялогіі Ганконгскага універсітэта Вэнь Гуэн прыйшоў да высновы, што распаўсюджанне віруса нетыповай пнеўманіі адбылося з-за спажывання мяса дзікіх катоў. Даследаванні, якія праводзіліся ў Ганконгу, пацвердзілі жывёльнае паходжанне віруса.

Па словах Вэнь Гуэна, у паўднёвых раёнах Кітая стравы з мяса дзікіх катоў карыстаюцца вялікай папулярнасцю, і цалкам магчыма, што менавіта гэты далікатэс стаўся прычынай узнікнення эпідэміі. Калі вучоным удасца дакладна акрэсліць прыроду віруса, то спыніць яго далейшае распаўсюджанне будзе лёгка, сцвярджае прафесар.

# Нетыповая пнеўманія

***Загадкавая хвароба запужвае свет***

Германскае паштовае ведамства адмаўляецца дастаўляць у Германію лісты з некаторых раёнаў Кітая і Ганконга. У суседняй Швейцарыі кітайскім вытворцам гадзіннікаў адмовілі ў дазволе прыняць удзел у выставе.

300 званкоў на дзень ад людзей, якія падазраюць у сябе захворванне нетыповай пнеўманіяй, – такі цяпер звычайны рэжым работы Інстытута трапічнай медыцыны ў Гамбургу, аднаго з асноўных НДІ ў галіне вірусалогіі. Менавіта тут у невялікай лабараторыі з 20-сантыметровым браніраваным ашкленнем захоўваецца той самы каронавірус, які выклікае нетыповую пнеўманію. Лабараторыя адносіцца да памяшканняў павышанай ступені абароны. Такіх у Германіі ўсяго дзве. Вонкі не можа патрапіць ніводзін кубічны сантыметр паветра. Бо тут утрымліваюцца самыя небяспечныя вірусы.



Цяпер вірус не такі страшны – ён расшыфраваны паралельна ў Гамбургу і Атланце. Гэта азначае, што ўжо ў бліжэйшай будучыні можна са 100-працэнтнай упэўненасцю ставіць дыягназ. «У пацыента, які прыехаў з Азіі, – тэмпература, боль у лёгкіх. Раней гэта былі адзіныя крытэрыі. Іх, канечна, было недастаткова, паколькі такім чынам нельга адрозніць хворых на нетыповую пнеўманію ад тых, у каго звычайная прастуда. Мы ідэнтыфікавалі каронавірус. І гэта пацвердзіла Сусветная арганізацыя аховы здароўя», – адзначыў дырэктар НІІ трапічнай медыцыны Бернхард Флейшар.

Вірусолагі мяркуюць, што інфекцыя амаль ва ўсіх выпадках перадаецца паветрана-кропельным шляхам. Людзі кашляюць, чыхаюць і гэтак распаўсюджваюць вірус. Калі ў чалавека няма яркіх сімптомаў нетыповай пнеўманіі, гэта значыць тэмпературы, кашлю і болі ў горле, заразіць іншых яны не могуць.

З 100 чалавек, якія заразіліся каронавірусам, 50 захворваюць на нетыповую пнеўманію. У 10 гэтая хвароба працякае ў цяжкай форме. З гэтых 10 чацвёра паміраюць. Усяго ў свеце зафіксавана ўжо каля 150 лятальных сыходаў.

У Інстытуце трапічнай медыцыны лічаць, што гэтым годам наўрад ці ўдасца распачаць вытворчасць вакцыны. Неабходны шматлікія доследы. Калі ў пачатку 20 стагоддзя ў гэтым жа будынку распрацоўвалі лекі супраць малярыі, вучоныя высветлілі, што хінін на арганізм чалавека дзейнічае гэтаксама, як на арганізм жоўтай канарэйкі. Тады доследы пайшлі хутчэй, і лекі неўзабаве з'явіліся. Аднак пакуль спецыялісты не вызначыліся, на кім праводзіць доследы. У якасці эксперымента нетыповай пнеўманіяй заразілі малпу.

# Усе – у сад!

## *Самы каштоўны мінскі экалагічны скарб*

***У 2003–2008 гадах у мінскім Батанічным садзе адбудзецца сякая-такая рэканструкцыя. Аднак гэтае адно з самых экалагічна чыстых і ўлюбёных месцаў адпачынку менчукоў застанецца адкрытым для тых, хто любіць заходзіць сюды на прагулянку. Прынамсі, у гэтым сезоне, які па шматгадовай традыцыі распачнецца з 9 траўня. Дык усе – у сад!***

Тое, што Батанічнаму саду патрэбная рэканструкцыя, відавочна. Шмат якія куткі ў ім выглядаюць закінутымі. Дзіва што! Батанічнаму саду летась споўнілася ўжо 70 гадоў. Закладзены ён быў разам з памежным з ім паркам Чалюскінцаў у 1932 годзе на месцы колішняга Камароўскага лесу. Паводле тагачаснага горадабудаўнічага плана, і сад, і парк мусілі стаць галоўнай рэкрэацыйнай зонай у паўночнаусходняй частцы Мінска. Аднак з цягам часу гарадская ўскраіна, дзе ў першыя гады размяшчалася Усебеларуская сельскагаспадарчая выстава, ператварылася ў цэнтр сталіцы.

А вось выглядае Батсад гэтаксама, як напачатку. У часе Другой сусветнай вайны яму пашчасціла пазбегнуць бамбёжак. Адно што фашысты, якія размясціліся тут стайні ды казармы, вывезлі ў Нямеччыну багата каштоўнага гербарыю. Праўда, цяпер яго аднавілі, і сёння тут каля 10 тысяч самых разнастайных раслін, сярод якіх шмат вельмі рэдкіх. Расце ў Батанічным садзе і каля 100 відаў, якія занесеныя ў Чырвоную кнігу, прычым не толькі беларускую, але і іншых краінаў. Ёсць у садзе таксама і такія, як, напрыклад, шпажнік (гладыёлус) балотны ці апазерыс смярдзючы, што лічацца ў прыродзе зніклымі.

Алеям Батанічнага саду ў сярэднім па 60-70 гадоў, а некаторым дрэвам у іх каля сотні. Пасадкі самыя разнастайныя. Вакол аркі галоўнага ўваходу растуць ліпавая і рабінавая алеі, ад яго ў глыб сада цягнецца цэнтральная – з дрэваў манчжурскага арэха. Яна вядзе да круга, адкуль на старажытнафранцузскі манер уладкавання паркавых комплексаў промнямі адыходзяць дубовая, яблыневая, чаромхавая, ясеневая, хваёвая, бярозавая, таполевая і іншыя.

Што да таполевай алеі, то падчас рэканструкцыі яна будзе цалкам абноўленая. На месца старых дрэваў пасадзяць маладыя. Замены дрэваў чакаюць і на некаторых іншых алеях. Праўда, выглядаць тады яны стануць не дужа гарманічна. Уявіце сабе: вялікае дрэва, вялікае – і раптам малое, потым зноў вялікае. За мяжой, калі робіцца рэканструкцыя алеяў, падсаджваюцца дарослыя дрэвы. На тое ёсць адмысловая тэхніка, якая выкопвае дрэва разам з каранямі і пераносіць яго ў іншае месца. Але гэта вельмі дорага каштуе – не для беларускай эканомікі.

Радыкальных пераўтварэнняў у Батанічным садзе не будзе, бо гэта помнік прыроды і ландшафтнай архітэктуры. Рэканструкцыя чакаецца збольшага касметычная, але тое-сёе наша вока не зможа не заўважыць. Прыкладам, на возеры з лебядзямі запрацуе водны каскад. Праз колькі гадоў з'явіцца экспазіцыйная аранжарэя экзатычных раслінаў, якіх у беларускай прыродзе не пабачыш. Напрыклад, можна будзе прагуляцца каля вялікіх кактусаў і пад ананасамі.

У новым сезоне ў Батанічным садзе адкрыецца цэлая крама-выстава. Дамок для яе ўжо стаіць пры ўваходзе у сад з вуліцы Сурганава. Раней расліны прадавалі з маленечкага шапіка, і людзям даводзілася глядзець на іх праз закратаванае шкло з вуліцы. Цяпер можна будзе спакойна пад дахам над галовай прайсціся паміж гандлёвых шэрагаў і выбраць сабе што-небудзь з флоры на лецішча ці ў кватэру. У будучым у Батанічным садзе плануюць зарабляць на аказанні насельніцтву паслугаў па фітадызайне і падрыхтоўцы букетаў на эксклюзіўную замову.

Што немалаважна для наведвальнікаў Батанічнага саду, тут установяць новыя лаўкі і альтанкі. А яшчэ з'явіцца пункты харчавання. Карацей, і воку будзе прыемна ад батанічнага хараства, і ў страўніку сыта.

Ужо некалькі гадоў у Батанічным садзе мараць адчыніць уласную краму-выставу. Разам з тым можна было б зарабляць на аказанні насельніцтву паслугаў па фітадызайне і падрыхтоўцы букетаў на эксклюзіўную замову.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Вялікдзень і вірус



**Няпростым быў Вялікдзень для каталікоў Кітая – на святочныя цырымоніі даводзіцца надзяваць рэспіратары, ды і нетыповая пнеўманія не лепшым чынам адбіваецца на настроі, бо самая шчырая малітва не гарантуе ад сутыкнення з небяспечнай хваробай.**

# Легіён для Расіі?

Нядаўна, знаходзячыся ў Мінску, міністр абароны Расіі Сяргей Іваноў заявіў пра магчымасць прыцягнення на кантрактную службу ў расійскім войску грамадзянаў СНД. Зразумела, што любы ваенны міністр проста так гэтакага зместу думкі публічна не агалошвае. Значыцца, маецца важная мэта. Заслугоўвае ўвагі і такая акалічнасць, што пра кантрактнікаў з краінаў СНД міністр абвясціў менавіта ў Мінску - у «саюзнай» дзяржаве. Магчыма, тут ён будзе лепш пачуты валанцёрамі. Міністр прапаноўвае прыняць адпаведны закон. Адной з прыманак будзе тое, што кантрактнікі з краінаў СНД пры ўмове добрасумленнай службы ва Узброеных сілах РФ, ужо праз тры гады змогуць атрымаць расійскае грамадзянства (праўда, незразумела, ці застанецца за імі грамадзянства іх ранейшай краіны).

Але, падкрэсліў расійскі міністр абароны, ствараць асобны замежны легіён, накшталт вядомага французскага, ваеннае ведамства Расіі пакуль не мае намеру. Усе прадстаўнікі краінаў блізкага замежжа, будуць размяркоўвацца па звычайных вайсковых часцях.

Так, гэта прыгожа прагучала, а што будзе на самой справе, якіх вайсковых спецыяльнасцяў людзі пойдуць у кантрактнікі, пакуль што судзіць цяжка. Можа пойдуць спецназаўцы ці дэсантнікі, а такіх дывізіяў няшмат.

Праблема контрактнай службы знаходзіцца пад увагай першых асобаў расійскай дзяржавы, якія пасля Чачэнскай вайны імкнуцца ўзмацніць расійскую армію. Федэральная мэтавая праграма разлічана на 2004-2007 гады і прадугледжвае набор на службу да 167 тысяч кантрактнікаў у званні радавых і сяржантаў. Галоўнае значэнне тут мае фінансавае забеспячэнне кантрактнікаў. У Пскоўскай дывізіі паветрана-дэсантных войскаў, якая першая пераходзіць на кантрактную службу, шараговец штомесяц атрымлівае 5,3 тысячы рублёў (прыкладна 176 даляраў па сённяшнім курсе), сяржант – 6 тысяч (200 даляраў), лейтэнант – 7,9 тысячы (260 даляраў), капітан – 8,7 тысячы (290 даляраў), камандзір батальёна – 9,9 тысячы (330 даляраў), камандзір палка – 11,6 тысячы рублёў (385 даляраў). Відаць, гэтыя лічбы і стануць арыенцірам пры заключэнні кантрактаў з грамадзянамі з іншых краінаў СНД.

Калі дадаць да гэтай сумы забеспячэння абмундзіраваннем і катлавое забеспячэнне, дык цалкам магчыма, што расійская армія атрымае дастатковую колькасць салдатаў удачы з суседніх краінаў, якія не здолеюць шукаць такой працы ў далёкім замежжы, бо не валодаюць мовай. Падпісаўшы кантракт, гэтыя людзі вольна ці нявольна патрапяць у тыя гарачыя пункты, дзе расійская армія будзе мець патрэбу выкарыстання спецыялістаў вайны.

**Павел ГОРАЎ**

## Навінкі паліцэйскай тэхнікі




**У Вялікабрытаніі з'явілася тэхнічная навінка. 50 000 вольт для заспакаення непаслухмяных дае англійскай паліцыі гэтая новая экзатычная зброя – пісталет Taser страляе дротыкамі на адлегласць да 7 метраў. Пры трапным пападанні ў чалавека той атрымлівае кароткатэрміновы удар токам у 50 тысяч вольт - несмяротны, але надта адчувальны і здольны цалкам паралізаваць. Мяркуецца, што ўжыванне гэтай зброі ў выпадках вулічных непарадкаў і пры затрыманнях злачынцаў паменшыць колькасць смяротных выпадкаў, злучаных з выкарыстаннем паліцэйскімі традыцыйных узбраенняў**

# Францыя. Замежны легіён

### Задачы легіёна

Легіён быў утвораны ў 1831 годзе, калі кароль Луі-Філіп выдаў адпаведны дэкрэт, якім адначасна забараніў выкарыстанне легіянераў на тэрыторыі Францыі. Кароль жадаў выціснуць з краіны масу наёмнікаў, рэшткі змяжаных палкоў Напалеона, эмігрантаў-удзельнікаў паўстанняў у Рэчы Паспалітай і Італіі. Гэтыя людзі мелі рэальны баявы вопыт, у большасці былі радыкальна настроены і ўяўлялі сур'ёзную небяспеку для палітычнай раўнавагі ўнутры краіны. Да таго ж было дзе скарыстаць гэтую сілу, бо набывала моц французская экспансія у Паўночнай Афрыцы. Так што кароль адным стрэлам забіў двух зайцаў – наёмныя салдаты-прафесіяналы пашыралі ўплыў Францыі за яе межамі.

У наш час жадаючых патрапіць у легіён нашмат болей, чым трэба. Ён мае высокі прафесійны статус. І не толькі таму, што міністрам узброеных сілаў краіны ў 1960 гадах быў П'ер Месэр, ветэран 13-й паўбрыгады Замежнага легіёна. У Францыі служба ў войску – святы абавязак кожнага грамадзяніна. Але ваяваць за морам французы «даваяраюць» валанцёрам-легіянерам. Салдацкія маці Францыі не патрабуюць вываду войскаў з Чада, Сенегала, Кот д'Івуара, Габона, Гвіяны, Цэнтральнай Афрыкі. Нікога ў свеце не здзіўляе і не шакіруе, што Францыя болей за 30 гадоў не спыняе вайны ў Афрыцы, дзе здымае і ўсталёўвае рэжымы як захоча. Французскія інтэрвенцыі, як правіла, носяць хуткасны характар і суправаджаюцца невялікімі стратамі (прыкладам, аперацыя «Баракуда»: прыляцелі, скінулі крывавага імператара Бакасу – і дадому). Такія аперацыі выконваюцца прафесіяналамі, а не прызыўнікамі, і французская грамадскасць не пратэстуе супраць.

### Шлях легіёна

У 1831 годзе 7 батальёнаў легіёна пад камандай швейцарца Штофеля выправіліся на заваёву Алжыра. Баявыя дзеянні з перапынкамі цягнуліся да 1962 года, калі Францыя нарэшце вывела свае войскі з гэтай краіны.

1836 год адзначаны першай буйной перамогай легіянераў над войскам султана Абд-эль-Кадыра. Тады легіянеры прымянілі рассыпную тактыку лёгкай пяхоты супраць рэгулярнай конніцы і пяхоты арабаў. Легіянеры закладвалі ў свае мушкеты па дзве кулі, на другой рабіўся надрэз, з-за якой куля, трапляючы ў цела, разрывалася на часткі і калечыла сваю ахвяру (кулі «дум-дум»).

У 1854–1855 гадах, у часе Крымскай вайны, разам з англічанамі і туркамі легіянеры асаджалі Севастопаль.

У 1859 годзе салдаты замежнага легіёна вылучыліся ў Італьянскай кампаніі ў баях супраць Аўстрыі. Легіён атрымаў права ўдзельнічаць у парадах 14 ліпеня ў Парыжы. З таго часу Замежны легіён, маючы на сваіх сцягах найбольшую колькасць узнагарод, штогод першым праносіць іх перад Трыумфальнай аркай.

У 1863 годзе замежны легіён удзельнічае ў мексіканскай авантуры імператара Максіміліяна – стаўленіка французаў. Там, у Мексіцы, нарадзіўся так званы «дух Камерона» – адна з традыцый легіёна. У вайне супраць мексіканскага народа легіянеры выявілі асабістую мужнасць. Гасіенда Камерона, дзе на працягу поўнага дня адбіваліся тры афіцэры і 62 легіянеры пад началам аднарукага капітана Дэню, асадзілі тры тысячы мексіканцаў. Легіянеры забілі 600 салдат, у жывых засталіся толькі пяць легіянераў. Яны пайшлі ў апошнюю штыкавую атаку. Трое з іх патрапілі ў палон. На месцы боя потым знайшлі пратэз рукі капітана Дэню, цяпер ён захоўваецца ў музеі Легіёна, а дзень таго боя стаў Днём легіёна. З таго часу легіянеры як парадны галаўны ўбор носяць белае кепі (звычайна – зялёны берэт).

У 1871 годзе ў парушэнне закона краіны легіён выкарыстоўваўся ў баях супраць парыжскіх камунараў.

У гады Першай сусветнай вайны легіянеры змагаліся з немцамі на Марне, Соме, пад Вердэнам. Пасля вайны ў шэрагі легіёна патрапіла шмат белаэмігрантаў, якія мелі багаты вопыт грамадзянскай вайны.

Калі пачалася Другая сусветная вайна і Францыя капітулявала, 13-я паўбрыгада Замежнага легіёна была накіравана на дапамогу Фінляндыі супраць СССР. Яна аказалася ў Нарвегіі і перайшла на бок генерала Дэ Голя. Паўбрыгада стала асновай узброеных сілаў «Свабоднай Францыі», змагалася ў Лівіі, Італіі, Францыі, скончыла вайну ў Германіі.

У 1945–1954 у складзе легіёна апынулася 18 тысяч немцаў, нядаўніх праціўнікаў легіянераў. Магчыма, сярод іх хапала ваенных злачынцаў, але ў легіёне не прынята правяраць біяграфію валанцёра на чысціню. Баявыя дзеянні вяліся ў Індакітаі і патрабавалі значных сілаў. Легіён вырастае да 100-тысячнага складу.



### Сучасны стан

Цяпер легіён абараняе інтарэсы Францыі ў Французскай Гвіяне ў Паўднёвай Амерыцы, ахоўвае касмадром Куру, «адслежвае» нелегальныя арцелі золатаздабытчыкаў. Легіянеры прысутнічаюць у складзе міратворчых місіяў ААН на Балканах, у Самалі. Перыядычна легіён выконвае контракты «па аднаўленні канстытуцыйнага парадку» ў краінах Цэнтральнай Афрыкі.

Асабісты склад легіёна фарміруецца праз вярбоўку, пасля развалу СССР у ім аказалася дастаткова былых салдат і афіцэраў Савецкай арміі, якія прайшлі Афганістан, спакушаных добрымі умовамі ўтрымання, заробкам і абяцаннямі французскага грамадзянства праз пэўны тэрмін бездакорнай службы ў легіёне.

**Алег ДАШКАВЕЦ**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 370
Падпісана да друку 24.04.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11